*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года — № 44 (730) — 16 ЛІСТАПАДА 2005 г.

## Зварот IX з'езду ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" да ўдзельнікаў выбарчай прэзідэнцкай кампаніі 2006 г.

**Шаноўныя суайчыннікі!**

Неўзабаве нас чакае чарговая кампанія па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. З гэтай нагоды мы звяртаем Вашу ўвагу на галоўную нацыянальную і дзяржаўную прыкмету – беларускую мову. Кіраўнікі краіны прыходзяць і адыходзяць, а народ і мова яго застаюцца. Пакуль жыве беларуская мова – жыве і наш народ, жыве наша нацыянальная дзяржава. Рускамоўная Беларусь існаваць самастойна не зможа. Пацверджаннем таму з'яўляецца наша бліжэйшая гісторыя.

Мы, удзельнікі IX з'езду ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", звяртаемся да ўсіх удзельнікаў выбараў: кандыдатаў у прэзідэнты, супрацоўнікаў выбарчых камісій і выбарцаў з прапановай шырока выкарыстоўваць родную беларускую мову, асабліва пад час агітацыі і ў дзень выбараў. Гэтым Вы замацуеце нашу незалежнасць і яшчэ раз засведчыце, што на палітычнай карце свету існуе самастойная краіна Беларусь.

30 кастрычніка 2005 г., г. Менск.

## Зварот IX з'езду ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" "Аб становішчы беларускай мовы ў тэлевізійным вяшчанні"

У апошнія некалькі гадоў доля беларускамоўнага вяшчання на дзяржаўных тэлеканалах прыкметна скарацілася. Так, на Першым нацыянальным канале па-беларуску выходзіць толькі 6 праграм. На канале "Сталічнае тэлебачанне" аб'ём вяшчання на беларускай мове складае менш за 10%. У перадачах тэлеканала "АНТ" беларуская мова практычна не ўжываецца зусім.

Выпускі навінаў Першага нацыянальнага тэлеканала выходзяць выключна на рускай мове, не звяртаючы ўвагі на масавыя пратэсты грамадзян Беларусі. Узровень валодання дзяржаўнай беларускай мовай некоторых вядоўцаў недаравальна нізкі: яны нават не могуць адказваць па-беларуску сваім суразмоўцам.

Нягледзячы на наяўнасць пазітыўнай дынамікі ўжывання беларускай мовы на канале "ЛАД" (каля 50%) і планы "СТВ" павялічыць аб'ём вяшчання па-беларуску да 20%, відавочнае парушэнне правоў беларускамоўных грамадзян атрымліваць інфармацыю на роднай мове. З гэтай нагоды мы звяртаемся да кіраўніка Беларускай дзяржавы з патрабаваннем забяспечыць усім грамадзянам краіны гарантаванае Канстытуцыяй права атрымліваць інфармацыю праз тэлебачанне на дзяржаўнай беларускай мове ў аб'ёме не меншым, чым на другой дзяржаўнай мове.

г. Менск, 30 кастрычніка 2005 г.

## Зварот IX з'езду ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" у сувязі з нападамі на кватэру сям'і Лапіцкіх у Жодзіне

**У Менскі аблвыканкам.**
**У Генпракуратуру Рэспублікі Беларусь.**
**У Міністэрства ўнутраных спраў.**

Мы, удзельнікі IX з'езду ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", звяртаемся да Вас з прычыны нападу і абстрэлу вокнаў кватэры сям'і Лапіцкіх у Жодзіне, актыўных сяброў нашай арганізацыі. Мы звязваем гэту падзею з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй сп. Аляксея Лапіцкага па адстойванні законнага права на навучанне свайго сына на дзяржаўнай беларускай мове.

Просім Вас узяць пад Ваш асабісты кантроль расследаванне дадзенай справы з мэтай абавязкова знайсці злачынцаў, якія, выкарыстоўваючы метады тэрору, пераследуюць патрыётаў нашай краіны.

Мы лічым, што рэальныя дзеянні па выяўленні і затрыманні злачынцаў безумоўна павысяць аўтарытэт уладных структураў у вачах нашых грамадзян і паспрыяюць умацаванню дзяржаўнай бяспекі Беларусі.

Зварот прыняты 30 кастрычніка 2005 г.

## Зварот IX з'езду ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" ў сувязі са спробай пераходу Тэатра юнага гледача на рускую мову

**Міністру культуры Рэспублікі Беларусь Л. П. Гуляку.**

Як стала вядома грамадскасці, мастацкая рада Тэатра юнага гледача выступіла з, мякка кажучы, дзіўнай ініцыятывай – адмовіцца ад беларускамоўнага рэжыму дзейнасці. Лічым гэта зняважлівым здзекам з традыцый адзінага ў краіне дзяржаўнага тэатра для дзяцей і яшчэ адным праяўленнем русіфікатарскіх памкненняў у галіне культуры, якія апошнім часам, на жаль, даюць сябе адчуць самым нечаканым чынам.

Выказваем з гэтай нагоды рашучы пратэст і патрабуем неадкладнага ўмяшання ў дзеянні палітычна недастаткова свядомых і адукаваных людзей, якія замахваюцца на канстытуцыйны статус беларускай мовы і імкнуцца аддаліць ад роднага слова юных грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Па нашым глыбокім перакананні, штодзённым клопатам усіх майстроў нашай суверэннай дзяржавы павінна быць найшырэйшае далучэнне да багаццяў нацыянальнага руху, а не выцясненне яго са сферы выхавання, адукацыі і культуры.

30 кастрычніка 2005 г., г. Менск.

## 14 лістапада споўнілася 100 год з дня народзінаў

# Міхася Васілька



Беларускі паэт Міхась Васілёк (сапраўднае імя Міхась Іосіфавіч Касцевіч) нарадзіўся ў вёсцы Баброўня Гарадзенскага раёна. У час першай сусветнай вайны выехаў з бацькамі на Паволжа, скончыў у 1921 у г. Казлове школу II ступені, а ў 1922 – вярнуўся на радзіму і жыў звычайным сялянскім жыццём, вёў гаспадарку. Вершы пачаў друкаваць з 1926 года ў заходнебеларускіх прагрэсіўных выданнях, асабліва рэгулярна ў "Летапісу ТБШ", "Беларускім летапісу", часопісах "Нёман", "Калоссе". Быў літаратурным супрацоўнікам часопіса "Маланка", арганізоўваў гурткі і падтрымліваў цесныя сувязі з сакратаром галоўнай управы Таварыства беларускай школы Рыгорам Шырмам, які быў шчырым апекуном паэта і выдаў у Вільні ў 1929 годзе першы канфіскаваны польскімі ўладамі зборнік Васілька "Шум баравы", а ў 1937 годзе – зборнік"З сялянскіх ніў". Многія вершы гэтых зборнікаў, блізкія па сваёй унутранай сутнасці і высокай мастацкасці народнай песеннасці, самі сталі папулярнымі ва ўсёй Заходняй Беларусі песнямі. Дыфензіва чыніла папулярнаму беларускаму паэту ўсялякія перашкоды, польская паліцыя здзекліва раіла замест напісання вершаў, па сведчанні Шырмы, "ісці растрасаць гной". Больш таго, падрыхтаваныя Шырмам да друку ў 1933 годзе зборнік "Шляхам барацьбы" і паэма "Арлы" былі канфіскаваны і загінулі ў сценах дыфензівы.

У 1939 годзе паэт быў мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон, адкуль уцёк ў 1941 годзе на радзіму. Быў сакратаром Скідальскага падпольнага антыфашыстоўскага камітэта і выступаў у партызанскім друку пад псеўданімам Язэп Гром. У 1944-1946 гадах працаваў у скідальскай раённай газеце "Чырвоны сцяг", потым – у "Гродзенскай праўдзе". У пасляваенныя часы выйшлі зборнікі паэта "Выбраныя творы"(1955), "Зоры над Нёманам"(1963), "Вершы"(1973) і аўтабіяграфія ў кнізе "Пра час і пра сябе"(1966).

*(Пра М. Васілька чытайце на ст. 6 - 7.)*



# 400-ты нумар, выдадзены ў Лідзе

*Норберт Рандаў*

# Скарына ў Гёрліцы

З верасня па лістапад 2003 года ў гёрліцкай гарадской бібліятэцы ў рамках „Году Бібліі" праводзілася выстава (між іншым, нямецкая федэральная пошта з гэтай нагоды выпусціла спецыяльную паштовую марку). Выстава была не вельмі багатая, але затое ў адзінай вялікай вітрыне ляжала кніга, пра якую ніжэй пойдзе гутарка. Выстаўлена было некалькі вельмі каштоўных біблій, якія захоўваліся ў гёрліцкіх бібліятэках, і калі б гэтую выставу не наведаў гёрліцкі суперінтэндэнт **пастар Лоберс**, яна скончылася б безвынікова. Дзякуй богу, што старое выслоўе вучоных “Slavica non leguntur” прынамсі ў Гёрліцы не знайшло свайго прымянення. Пастар Лоберс, які вывучаў рускую мову і доўгі час правёў у Пецярбургу, змог расшыфраваць напісаны кірыліцай загаловак адной з гэтых біблій: ***Библия Руска, выложена доктором Франциском Скориною из славнаго града Полоцька, Богу ко чти и людем посполитым к доброму научению***. Неўзабаве пасля заканчэння невялічкай гёрліцкай выставы біблій у горадзе Наўмбург сабраўся сход тэалагічнага таварыства імя Меланхтона, на які запрасілі і мяне, нетэолага, каб я зрабіў там даклад пра беларускую літаратуру. Карыстаючыся выпадкам, пастар Лоберс паведаміў мне, што ў Гёрліцы ёсць біблія Скарыны, цэнтральнай фігуры не толькі беларускай літаратуры, але і наогул старажытнай беларускай культуры эпохі перад беларускім Адраджэннем у канцы 19-га - на пачатку 20-га стагоддзя. Я не мог паверыць таму, што ён сказаў, бо ўсе асобнікі выдадзеных і надрукаваных Скарынам кніжак, нават іх фрагменты, агульнавядомыя, апісаны падрабязна, а бібліятэкі, якія валодаюць адной ці некалькімі ягонышы кнігамі, лічаць за гонар мець такія каштоўнасці. Усяго на сёння вядомыя 258 асобнікаў кніг, перакладзеных або напісаных Скарынам, якія захоўваюцца ў розных еўрапейскіх бібліятэках. Тое, што ў Гёрліцы раптам знойдзена біблія, перакладзеная Скарынам на старабеларускую мову ды яшчэ выдадзеная ім самім у Празе ў 1518-19 гадах, здалося мне надзвычай неверагодным. Але перапіска са спадаром Лоберсам зняла ўсе мае сумненні. Ён прыслаў мне копіі не толькі тытульнага ліста, але і адзінага ў сваім родзе поўнафігурнага партрэта Скарыны, які хоць і вядомы, але надрукаваны тут у варыянце, у якім адсутнічаюць дзве дэталі, менавіта так званая пчала ўнізе справа (мне бачыцца там хутчэй муха) і манаграма MZ унізе злева над кашамі. На рэпрадукцыі гэтага варыянту, змешчанай на старонцы 599 другога тома факсімільнага выдання скарынаўскай Бібліі, якое з'явілася ў Менску ў 1991 годзе, на партрэце Скарыны адсутнічаюць вырваныя вялікія кавалкі.

Гэта што датычыцца перадгісторыі. Потым я на цэлы тыдзень выбраўся ў Гёрліц і грунтоўна пазнаёміўся там з Бібліяй Скарыны. Тым часам працаваў з гэтай Бібліяй і пастар доктар Дзідрых; у сваёй доктарскай дысертацыі пра Рэфармацыю на Беларусі, якая ў бліжэйшы час выйдзе ў свет, ён прысвяціў ёй цэлы экскурс. Гёрліцкі асобнік скарынаўскай Бібліі, усе кнігі якой былі падрыхтаваны і выдадзены асобна, складаецца з дзвюх частак-звязак. Першая змяшчае Пяцікніжжа, гэта значыць пяць кніг Майсея, і была надрукавана ў Празе ў 1519 годзе. Другая, надрукаваная таксама ў Празе ў 1518 годзе, уключае ў сябе кнігу Ісуса сына Нава, чатыры кнігі Царстваў, Кнігу прамудрасці і малітву Манасіі. Кожная кніга мае падрабязныя прадмовы і кароткія пасляслоўі самога Скарыны, а для ўсёй Бібліі дадзена вялікая прадмова. На гэтай агульнай прадмове я запынюся ніжэй; у ёй асабліва яскрава выяўляецца ідэйная пазіцыя Скарыны, шырока адкрытая для рэфарматарскіх імкненняў свайго часу.

Абедзве часткі, якія разам складаюць 678 аркушаў або 1356 старонак, змяшчаюць не ўсе перакладзеныя Скарынам біблейскія кнігі, але тым не менш значную іх частку, і пазначаны кожная на верхніх палях першай старонкі рукапісным запісам уладальніка на лацінскай мове. Гэты запіс збярогся ў першай частцы няпоўнасцю, бо яго верхняя палова была амаль цалкам абрэзана пры пазнейшым спалучэнні і пераплёце абедзвюх частак. Ясна толькі адно, што ў абедзвюх частках змешчаны адзін і той жа тэкст, менавіта: *Sum Joannis Hessi theologi. Ex dono domini Andreae Banck. Ann XXVII*, у перакладзе: ***Я належу Ёханэсу Хесу, тэолагу. Падарунак спадара Андрэаса Банка***. Хто быў першым уладальнікам абедзвюх кніг (мабыць, усё-такі названы вышэй Андрэас Банк), я яшчэ не змог вызначыць дакладна. Каля 1520 года ў Брэслаў жыла сям'я патрыцыяў па прозвішчы Банк, да якой магчыма і належаў Андрэас. Можа ён сябраваў са Скарынам і атрымаў ад яго ў падарунак абедзве часткі. Тым больш цікава імя чалавека, які атрымаў гэтыя кнігі ад яго ў падарунак. Ёханэс Хес належыць да ліку вядомых нямецкіх рэфарматараў.




***24 кастрычніка на факультэце журналістыкі БДУ прайшла прэс-канферэнцыя, наладжаная БДУ і Таварыствам беларуска-нямецкіх сустрэч з нагоды знаходкі ў Германіі асобніка Бібліі Францішка Скарыны. Для ўдзелу ў прэс-канферэнцыі з Германіі прыехаў Норберт Рандаў, нямецкі славіст, кансультант па моўных пытаннях Федэральнага міністэрства замежных спраў, які ідэнтыфікаваў знаходку.***

***Спадар Рандаў, сустрэўшыся ў Менску з сябрамі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, ласкава пагадзіўся перадаць у газету ТБМ “Наша слова” пераклад свайго дакладу, зробленага на прэс-канферэнцыі.***

Нарадзіўся ён у Нюрнбергу ў 1490 годзе, вывучаў тэалогію ў Ляйпцыгу і Вітэнбергу і стаў у 1513 годзе сакратаром брэслаўскага епіскапа Ёхана Турцо. У 1520 годзе ён зноў адправіўся ў Вітэнберг і наладзіў там цесныя сувязі з Лютэрам і Меланхтонам, з якімі і пазней падтрымліваў сяброўскія адносіны. Пасля гэтага ён працаваў прапаведнікам лютэраўскага вучэння пры двары герцага Ёльскага і стаў у 1523 годзе прапаведнікам царквы Марыі Магдалены ў Брэслаў. Дзякуючы яму Рэфармацыя ў Брэслаў дасягнула значных поспехаў. Памёр ён у 1547 годзе.

Варта бліжэй пазнаёміцца з гэтым Ёханэсам Хесам, бо не выключана, што ён ведаў Скарыну асабіста, калі прымаць пад увагу, што ў намеры Хеса ўваходзіла і тое, каб пропаведзі чыталіся таксама і на славянскай мове. Ранкэ прысвяціў яму ў сваёй “Гісторыі Рэфармацыі” некалькі павучальных абзацаў. Яны малююць Хеса як дзеяча, які знаходзіўся ў цэнтры эпохі з абвостранымі грамадскімі і рэлігійнымі супярэчнасцямі. Хачу працытаваць вам адрыўкі з гэтага выдатнага гістарычнага твора Ранкэ:

*„У Сілезію евангелічнае вучэнне пранікла вельмі рана і вельмі моцна. Хоць гэтая краіна адрознівалася ад іншых нямецкіх абласцей тым, што яна непасрэдна не падпарадкоўвалася імператару і не магла па-гэтаму абгрунтоўваць свае прэтэнзіі пастановай імперскага сойма ў Шпайеры. (Імперскі сойм у Шпайеры адбыўся ў 1529 годзе - супраць яго рашэнняў пратэставалі імперскія чыны (г. зн. князі і вольныя імперскія гарады), якія сталі прызнаваць вучэнне Лютэра і патрабаваць вяршэнства дзяржаўнай улады над царквой - адгэтуль і назва “пратэстанты”; праз год Меланхтон напісаў для іх “Аўгсбургскае веравызнанне”.) Але ўмовы былі тут вельмі блізкія: і галоўны горад (г. зн. Брэслаў), і князі займалі ў адносінах да кароны Багеміі, да якой яны належалі, не меней самастойныя пазіцыі, чым імперскія чыны ў адносінах да імператара. Кожны ідэйны рух у самой Германіі знаходзіў тут адразу свае аналогіі. Як непахісна Брэслаў быў яшчэ зусім нядаўна на баку папы падчас “Падэбрадскага разладу”, гэтак жа актыўна ён уключыўся цяпер у барацьбу з ім. З-за шэрагу падзей настрой магістрату і грамадзян і тут атрымаў антыклерыкальны кірунак. Людзі не хацелі больш мець кляштара бернардзінцаў, бо думалі, што ягоныя сувязі з каралеўскім дваром будуць негатыўна ўплываць і на іх асабіста. Яны былі незадаволены бязладдзем, якое мела месца ў прыходзе царквы Марыі Магдалены, дзе ўвесь час адзін прэтэндэнт прагаў другога. З каталіцкімі саборнымі свяшчэннікамі ў горадзе быў вечны разлад. І тут лютэраўскае вучэнне хутка знайшло сабе добра падрыхтаваную глебу. У 1523 годзе горад асмеліўся нават самаўладна прызначыць святаром у гэты прыход менавіта аднаго з бліжэйшых сяброў Лютэра і Меланхтона - толькі што прыехаўшага з Вітэнберга доктара Ёханэса Хеса. Вось у якім кірунку развіваліся падзеі ў Брэслаў, як і ў іншых месцах. Падчас урачыстай дыспутацыі новыя прынцыпы адсвяткавалі поўную перамогу, народ быў перацягнуты на бок Рэфармацыі; пачалі мяняць абрады, хоць і прытрымліваліся пры гэтым у некаторых выпадках як мага бліжэй традыцыйных абрадаў Брэслаўскага епіскапства. Бернардзінцы ўжо даўно лепш хацелі б з'ехаць з горада, чым аб'яднацца, як ад іх патрабавалі, з дамініканцамі; цяпер жа кляштары распаліся самі; магістрат не меў нічога супраць, каб манахі і манашкі выйшлі з кляштара і пажаніліся. Але не трэба думаць, што новыя святары лютэранскага кірунку, хоць і абавязаныя магістрату сваім узвышэннем, былі безагаворачна пакорныя яму. У красавіку 1525 года доктар Хес перастаў раптам выступаць з казаннямі. Магістрат звярнуўся да яго з запытаннем, у чым прычына. Ён адказаў: ён бачыць, што яго дарагі пан Хрыстос ляжыць перад дзвярыма царквы, і ён не можа пераступіць цераз яго. Бо ён ужо не раз звяртаўся да магістрата з просьбай паклапаціцца аб жабраках, якія перапаўнялі горад і падчас богаслужэння размяшчаліся перад царкоўнымі дзвярыма; толькі цяпер яму ўдалося зрушыць справу з месца: гэтая ягоная сур'ёзная дэманстрацыя зрабіла ўражанне. Сапраўдных бедных аддзялілі ад тых, хто толькі прыкідваўся ці жартаваў, і змясцілі іх у шасці розных прытулках для бедных. У 1526 годзе пачалося будаўніцтва новага вялікага прытулку, і сам святар дапамагаў закласці ягоны фундамент, а заможныя грамадзяне пастаўлялі матэрыялы. Рамеснікі працавалі на будоўлі бясплатна, і будынак быў пабудаваны ўсяго за адзін год - добрая справа маладога евангелічнага запалу. Асабліва вялікую дапамогу святару аказаў гарадскі пісар Ёган Карвінус, чалавек, які раней належаў да літаратурнага асяроддзя і сам выкладаў у шэрагу першых паэтычных школ: Увогуле ўсе ішло суладна, панавала аднадушша; магістрат хваліўся пры двары, што ў яго ніколі не было больш паслухмянай грамады.” (...) „Так як развіццё Рэфармацыі ішло толькі ўнутры абмежаваных тэрыторый, то натуральна, што новая царква ні ў якім разе не магла зраўняцца ў пышнасці і бляску ўздзеяння з ранейшай (папісцкай) іерархіяй: яе вартасць і яе сутнасць былі ў яе ўнутранай духоўнай моцы. Яна ўзяла на сябе абавязак данесці хрысціянскія прынцыпы непасрэдна да душы ўсіх людзей і, асабліва, простага народу і вызваліць іх разуменне ад скажэння іх чужымі формуламі і службамі і развіваць іх у тым кірунку, каб яны змаглі запоўніць агульную свядомасць усіх нацый на зямлі. Новае вучэнне чуваць ужо амаль на ўсіх мовах.” (...) “Доктар Хес зрабіў так, **каб Евангелле прапаведвалася на славянскай мове**; вучні Лютэра прапаведвалі яго ў Даніі і Швецыі, адзін з першых студэнтаў, які запісаўся на вучобу ў Марбургу, стаў заснавальнікам шатландскай царквы, у каледжы Цела Хрыстова ў Оксфардзе ў 1527 годзе ўзнікла Таварыства хрысціян, якія прытрымліваліся лютэранскай веры, і яго можна разглядаць як семінар новых поглядаў. Тым часам у 1528 годзе з Берна пачалося непасрэднае ўздзеянне на Жэневу і на ўвесь раманскі свет. У Італіі гэтае вучэнне пранікла праз старыя літаратурныя сувязі; у Іспаніі яго вельмі рана падхапілі францысканцы; у Францыі яно знайшло магутную заступніцу ў каралеве Навары. Лютэр, у якога не было ніякага імкнення да славы, нават ніякага запалу схіляць людзей у сваю веру, разлічваў на ціхую, прыроджаную сілу пераконвання, але заўважыў тым не менш, што ў Евангелля, якое ён аднавіў, таксама будзе некалі свая царкоўная гісторыя.”*

Настрой эпохі і аднадушша, з якім народ усюды прагна ўспрымаў рэфарматарскі дух, здаецца мне, больш як выразна адчуваецца ў гэтых крыху даўгаватых цытатах. Разам з тым робіцца ясным, што Рэфармацыя была паліцэнтрычным працэсам, які ахапіў усю Еўропу ад паўднёвага раманскага да паўночнага германскага і славянскага свету. Да пачатковага этапу гэтага працэсу адносіцца і дзейнасць Скарыны, не ў апошнюю чаргу таму, што ён сваім надрукаваным перакладам Бібліі ў пэўным сэнсе стаў асобай, якая *„рабіла моцнае ўздзеянне на масы"* і данесла хрысціянскую рэлігію да свайго народа - без раздування абрадавых аксесуараў, што рабілі каталіцкая дый таксама праваслаўная цэрквы за кошт сапраўднай веры.

Францыскус Скарына паходзіў без сумнення з каталіцкай сям'і старажытнага беларускага горада Полацка ў Вялікім Княстве Літоўскім, жыхары якога ў сваёй большасці прытрымліваліся праваслаўнай веры; аднак мелася і значная частка насельніцтва каталіцкага веравызнання, што не было асаблівасцю ў Вялікім Княстве Літоўскім, якое вызначалася канфесійнай цярпімасцю, і дзе ў згодзе жылі праваслаўныя і каталіцкія хрысціяне, габрэі і татарскія мусульмане. Пачатковую адукацыю Скарына атрымаў, мабыць, у манастырскай школе роднага горада. Там ён вывучаў ужо, відаць, лацінскую мову і пазнаёміўся таксама з моцна афарбаванай беларусізмамі царкоўнаславянскай мовай, якая ўжывался тут праваслаўнай царквой; акрамя таго гутарковай мовай у яго сям'і і, канешне, у горадзе была старабеларуская. Восенню 1504 года ён пакінуў Полацк, каб паехаць у Кракаў вывучаць сем вольных мастацтваў, г. зн. дазволеных мастацтваў (у адрозненне ад забароненага Чорнага мастацтва), у якіх былі сканцэнтраваныя тагачасныя вышэйшыя веды. Вучоба складалася з дзвюх частак: так званага трывіюму, ніжэйшай ступені, - вывучэння граматыкі, рыторыкі і логікі, і квадрывіюму, вышэйшай часткі, якая ўключала музыку, арыфметыку, геаметрыю і астраномію. Вучоба, выкладанне прадметаў вялося на лацінскай мове з выкарыстаннем класічных рымскіх аўтараў. З шасцідзесяці студэнтаў свайго года Скарына скончыў вучобу з найлепшымі вынікамі, як сведчаць дакументы Кракаўскага ўніверсітэта. Паглыбленню свецкага вучэбнага матэрыялу, які ён змог засвоіць у Кракаве, павінен быў служыць потым, зразумела, у рамках хрысціянскай рэлігіі, і ягоны пераклад Бібліі. Але пра гэта ніжэй. Скарына, магчыма, вывучаў медыцыну на славутым тады медыцынскім факультэце ў Капенгагене, адтуль ён накіраваўся ў Падую і бліскуча вытрымаў там у 1512 годзе свой доктарскі экзамен. Я не збіраюся тут пералічваць дэталёва ўсе шматлікія этапы яго далейшага жыцця, да якіх спачатку, мусіць, належала Венецыя. У 1517 годзе, прынамсі, ён быў у Празе. Там ён, прывучаны з дзяцінства да цярпімасці каталік, ахоплены ўсё больш мацнеючай рэфарматарскай ідэяй, што просты народ, г. зн. усе людзі, якія маглі чытаць, павінны пазнаёміцца з бібліяй на ўласнай мове, пачаў перакладаць на пашыраную тады на сваёй радзіме пісьмовую мову, менавіта на старабеларускую, якая грунтавался на царкоўнаславянскай, паасобныя кнігі, спачатку Старога Запавету, і друкаваць іх адразу пасля заканчэння перакладу. Гэтай задачы ён прысвяціў сябе ў Празе на працягу наступных двух гадоў.

Але вернемся зноў да скарынаўскага ўяўлення аб Бібліі перш за ўсё як пасярэдніцы свецкай адукацыі. У прадмове, якой пачынаецца Пяцікніжжа і тым самым уся Біблія, ён папярэджвае аднак супрацьпастаўляць свецкую адукацыю рэлігіі. Тое, што Бог стварыў свет з нічога, ёсць большая таямніца, чым тэарэма вялікага філосафа Арыстоцеля, што з нічога і атрымліваецца нічога. І ўсё ж Скарына раіць карыстацца Бібліяй у прыватнасці для вывучэння граматыкі, г. зн. каб навучыцца правільна чытаць і пісаць; яна можа таксама служыць у якасці падручніка логікі, г. зн. каб адрозніваць правільнае ад няправільнага; далей з яе дапамогай можна вывучаць і рыторыку. Гэта што датычыцца Бібліі як асновы трывіюму. Але і квадрывіюм можа атрымаць з Бібліі важныя ўрокі: музыка, напрыклад, са шматлікіх святых песень; арыфметыка знойдзе ў Кнізе Лікаў і геаметрыя перш за ўсё ў Кнізе Ісуса сына Нава сваю аснову; а пачатак гісторыі стварэння свету падыходзіць да ўводзін у астраномію. Аднак на яго думку - і гэта сведчыць аб глыбока ўкаранёнай хрысціянскай рэлігійнасці Скарыны - чалавечыя веды мінучая з'ява, чалавек павінен імкнуцца да Вечнага, да выратавання душы.

Гэтае спалучэнне свецкіх ведаў з хрысціянскай верай і пераклад Святога пісання на зразумелую яго народу мову ставяць Скарыну ў адзін шэраг з рэфарматарскімі імкненнямі, якія дзякуючы кнігадрукаванню атрымалі моцны штуршок. Пра гэта сведчыць і цікавасць да скарынаўскай Бібліі, якую праявіў доктар Хес, брэслаўскі рэфарматар, зацікаўлены ў пашырэнні Рэфармацыі і сярод славян.

Лёс скарынаўскай гёрліцкай Бібліі, пасля смерці брэслаўскага рэфарматара доктара Хеса, які валодаў ёю пасля неідэнтыфікаванага Андрэаса Банка, на некалькі наступных дзесяцігоддзяў пакрыты цемрай. Але ў гэтыя дзесяцігоддзі дзве яе часткі атрымалі сённяшнюю агульную вокладку. Памеры абрэзанага асобніка Бібліі складаюць 16,4 на 21,8 см. (Люстра набору без агульнай назвы мае памеры 17,3 на 11 см.) Карашок таўшчынёю ў 10,5 см з даволі шырокай (каля 5 см) прылеглай часткай абедзвюх вокладак зроблены з трывалай цёмнакарычневай скуры з арнаментальным цісненнем, самі вокладкі з кардону і абцягнутыя пергаментам, узятым са старога нотнага рукапісу з адпаведным тэкстам. Тэкст гэты - звычайны запіс харалу. Мелодыя яго - з "Сапраўднага канона", можна пазнаць частку парапаменных спеваў і першы радок 79 псалма і слова "Уступная песня". Відаць, часткі кнігі аддаў пераплесці Даніэль Штаўдзіюс (Штаўдэ), вядомы як бібліяфіл. Бо наступны рукапісны запіс уладальніка - а ён знаходзіцца толькі на правых шырокіх палях тытульнага аркуша першай часткі, дзе на верхніх палях маецца і напалову адрэзаны запіс доктара Хеса, які потым яшчэ раз поўнасцю непашкоджаным стаіць на такім жа месцы ў другой частцы -гучыць так: Ex libris Danielis Staudii D.U.J. Скарачэнне расшыфроўваецца як Doktor utriusque juris, г. зн. абодвух правоў, свецкага і царкоўнага. Значыць, абедзве часткі былі ўжо пераплецены да таго, як Штаўдэ зрабіў свой запіс. Гэты доктар Штаўдэ - ён нарадзіўся ў 1566 годзе і памёр ужо ў 1616 годзе - за год да сваёй смерці, г. зн. у 1615 годзе, падараваў свой збор з 500 кніжак гёрліцкай гімназіі, якая ўзнікла ў 1565 годзе на месцы старога кляштара. Аб'яднаная бібліятэка гёрліцкай гімназіі трапіла потым пазней у Міліхскую бібліятэку, пра якую зараз пойдзе размова.

У маленькай кніжцы "Гістарычныя навіны пра бібліятэкі ў Гёрліцы", якая была выдадзена ў 1737 годзе Крысціянам Кнаўтэ ў Гёрліцы, знаходзіцца першае ў Нямеччыне ўпамінанне аб скарынаўскай Бібліі. Вось што піша Кнаўтэ пра асобныя аддзелы бібліятэкі, пасля таго як ён падрабязна апісаў усе прасторавыя перамяшчэнні гімназічнай бібліятэкі, пакуль яна не знайшла ў свой час сваё канчатковае месца: *"Першы яе клас змяшчае тэалагічныя кнігі побач з тымі, якія належаць да "Гісторыі царквы". Самыя значныя з іх - гэта шматлікія грэчаскія і лацінскія Patres, Біблія на багемскай мове срэбранага ціснення, надрукаваная ў Тойчэнброда ў 1596 годзе, фарматам кварта. А таксама Біблія на маскавіцкай мове, без якога-небудзь іншага перакладу; надрукаваная маскавіцкімі літарамі. Загаловак у перакладзе на лацінскую мову гучыць так: "Библия Руска, выложена доктором Франциском Скарыною из славного града Полоцка, Богу ко чти и людем посполитым к доброму научению": у старым горадзе Прага ў траўні 1518 года".* Тут ужо змаглі прачытаць "маскавіцкія літары", хоць Полацк і пераблыталі з, відаць, больш вядомым у Гёрліцы польскім горадам Плоцкам. "Маскавіцкі" загаловак нават пераклалі на лацінскую мову, але не прывялі ў арыгінале. Амаль 300 гадоў таму назад "маскавіцкім", як здаецца, называлася, відаць, усё, што было надрукавана кірыліцай на ах якім далёкім усходзе. І ўсё ж аб беларускай біблії і яе перакладчыку і друкару ўпершыню даведаліся ў нямецкім выданні, г. зн. на сем гадоў раней, як аб гэтым паведамляе Тумаш у сваёй бібліяграфіі.

У 1727 годзе Advocatus ordinarius Ёган Готліб Міліх з Швайдніца запавятаў свой кнігазбор колькасцю ў 4000 кніг гёрліцкай гімназіі, бібліятэка якой атрымала такім чынам вялізны прырост і стала з гэтага часу звацца Міліхскай бібліятэкай; а так як яна ўвесь час павялічвалася дзякуючы падарункам і тастамантам, то прыходзілася шукаць для яе ўсё новыя і большыя памяшканні. Сёння яна знаходзіцца ў Верхнелужыцкай навуковай бібліятэцы ў Гёрліцы, з якою яна аб'ядналася ў 1953 годзе. У вельмі інфарматыўным каталогу да выставы пра "Ёгана Готліба Міліха, вучонага і збіральніка" ў Сілезскім музеі ў Гёрліцы, які выйшаў у 2000 годзе, аб скарынаўскай Бібліі, якая, бясспрэчна, належыць да самых вялікіх каштоўнасцяў Міліхаўскай бібліятэкі, яшчэ не ўпамінаецца. Яна з'явілася на свет, як сказана вышэй, толькі ў "Год Бібліі".

Біблія, якая знаходзіцца ў Гёрліцы і складаецца з паасобных кніг Старога Запавету, значна павялічвае колькасць скарынаўскіх кніг, надрукаваных у Празе. Да 258 больш-менш поўных асобнікаў скарынаўскіх кніг трэба цяпер дадаць яшчэ восем. Іх стане зараз 266, і не 181, а 189 з іх будуць знаходзіцца не ў 39, а ў 40 частках, а 77 пераплецены асобна.

Гэтая знаходка дапоўніць на некалькі нумароў выдадзены ў 1998 годзе ў Бадэн-Бадэне Аўгенам Неміроўскім выдатны трэці том Агульнага каталога першадрукаў кірыліцай. Гёрліцкая Біблія Скарыны - гэта адзіныя восем друкаў Францішка Скарыны, якія знаходзяцца на тэрыторы Германіі.

*Пераклад з нямецкай У. Сапегі.*

# Летапіс ТБМ

ЛЕТАПІС
ТБМ



1989 - 2004

На IX з'ездзе ТБМ было прадстаўлена інфармацыйна - даведачнае выданне **"Летапіс дзейнасці Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", 1989 - 2004."**

Фрагменты дзейнасці Таварыства, адлюстраваныя ў "Летапісе..." былі сабраны Сакратарыятам ТБМ і рэдакцыяй газеты "Наша слова" паводле звестак, знойдзеных у СМІ, у архівах арганізацый Таварыства, у пратаколах з'ездаў, радаў і сакратарыятаў. "Летапіс..." утрымоўвае інфармацыю пра дзейнасць ТБМ за перыяд ад Устаноўчага з'езду 27 чэрвеня 1989 года да канца 2004 года. Укладальнікі кнігі: Ірына Марачкіна, Станіслаў Суднік.

У прадмове да кнігі напісана: *"Спробы сістэматызацыі і абагульнення фрагментаў разнабаковай і актыўнай дзейнасці Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны рабіліся ўжо не адзін раз. Два разы гэта рабіла газета "Наша слова". Гэтае выданне трэцяя спроба падагульніць зробленае Таварыствам за 15 гадоў. У яго назве цэнтральнае месца займае слова "Летапіс", хаця тое, што атрымалася далёкае ад летапісу ў навуковым значэнні гэтага слова, бо, нажаль, на самай справе ніхто ў Таварыстве летапісаннем не займаўся. Ніхто не занатоўваў, нават, самыя грунтоўныя і яркія акцыі і мерапрыемствы, якія праводзілі арганізацыі Таварыства. Лічылася зусім натуральным, што пра праведзеную акцыю нездзе нехта напіша. Пісалі, але на паверку аказалася, што лёгка можна аднавіць у памяці толькі тыя падзеі, якія знайшлі адлюстраванне ў газеце "Наша слова", інфармацыя раскіданая па іншых цэнтральных, а тым больш рэгіянальных выданнях, аказалася абсалютна недаступнай.*

*Разумеючы сітуацыю, якая складваецца Старшыня ТБМ праз газету "Наша слова" звярнуўся да ўсіх сяброў Таварыства з просьбай парупіцца і даслаць у Сакратарыят свае дадаткі да агульнага Летапісу. Парупілася некалькі арганізацый ды некалькі чалавек.*

*Такім чынам, відавочна, што ў кнігу не трапіла вельмі і вельмі многае з дзейнасці Таварыства, але тое, што сабрана ўяўляе сабой даволі глыбокі зрэз гэтай дзейнасці. Падзеі, якія трапілі ў Летапіс, даюць даволі грунтоўнае ўяўленне пра дзейнасць арганізацыі, пра яе метады, пра канцавую і прамежкавыя мэты ды шляхі іх дасягнення.*

*Можна спадзявацца, што калі грамадства правільна ацэніць сутнасць зробленага, то будзе прынята рашэнне аб стварэнні спецыяльнай камісіі Таварыства па дапрацоўцы Летапісу за мінулыя гады і па арганізацыі сапраўднага летапісання ў гады наступныя, каб яшчэ праз пяць гадоў мы маглі прэзентаваць на чарговым з'ездзе не толькі больш поўны Летапіс, а магчыма, і энцыклапедыю ТБМ."*

Ніякая камісія, канешне ж, на з'ездзе створана не была. Відаць, і надалей асноўным летапісцам ТБМ будзе заставацца газета "Наша слова", на старонках якой адлюстроўваюцца ўсе асноўныя падзеі з жыцця арганізацый Таварыства.

15-гадовая дзейнасць ТБМ, якая ўяўляла велізарную колькасць самых розных акцый, мерапрыемстваў і падзей і адлюстравана часткова ў гэтай кнізе, з пазіцый чыстай гісторыі яшчэ не можа быць ацэнена, але ўжо сёння можна сказаць, што грамадскі рух у форме ТБМ з'яўляецца феноменам нашага часу. У беларускай гісторыі яму бачыцца толькі адзін аналаг - Таварыства беларускай школы ў Заходняй Беларусі ў 20-30-я гады мінулага стагоддзя. ТБШ дзейнічала ў асноўным у падполлі, і вельмі многае з дзейнасці гэтай арганізацыі назаўсёды страчана для гісторыі. ТБМ, дзякуй Богу, не ў падполлі, і ў нас ёсць магчымасць зафіксаваць усё зробленае.

Кніга **"Летапіс дзейнасці Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", 1989 - 2004."** была раздадзена дэлегатам IX з'езду ТБМ, усе астатнія могуць знайсці яе ў сядзібе ТБМ на Румянцава, 13 ў Менску.

*Яраслаў Грынкевіч.*



№ 44 (730) 16 ЛІСТАПАДА 2005 г. Наша слова

*Леанід Лыч*

# Дзесяцігоддзе вялікіх нацыянальных стратаў

У нашай шматвяковай гісторыі ёсць нямала чымсьці адметных адзін ад аднаго дзесяцігоддзяў. Для адных з іх было характэрным узвышэнне беларускага народа ў сваім эканамічным, сацыяльна-палітычным і духоўным развіцці, для другіх - таптанне на месцы і нават пэўны заняпад. У мінулым стагоддзі адносна спрыяльным з нацыянальнага пункту гледжання быў дзесяцігадовы перыяд 1923 - 1932 гадоў. Ужываю слова "адносна", таму што і ў гэтыя гады нас не абмінулі рэпрэсіўныя акцыі савецкай каманднабюракратычнай машыны. Але ўсё ж галоўнае, што на гэты перыяд прыпалі правядзенні мерапрыемстваў па падрыхтоўцы пераходу рэспублікі да дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі і актыўны ўдзел шырокіх колаў грамадства ў яе практычным ажыццяўленні. Супрацоўніцтва ўладных структур з самім народам у пабудове сапраўднага беларускага нацыянальнага дома дало станоўчыя вынікі на ўсіх дзялянках стваральнай дзейнасці людзей і асабліва ў іх культурна -моўным адраджэнні і развіцці. З'явіліся ўсе перадумовы для таго, каб жыццё нашых людзей набыло ў вышэйшай ступені сваё беларускае нацыянальнае аблічча, не з'яўляючыся злепкам з рускай, польскай ці якой-небудзь іншай культуры. Даводзіцца толькі здзіўляцца, што не толькі сучасная дзяржава, але і ўсе грамадска-асветніцкія арганізацыі не палічылі патрэбным адзначыць сёлета 80-годдзе ад часу ўвядзення ў рэспубліцы дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі.

На вялікі жаль, больш ужо аніводнаму з наступных дзесяцігоддзяў дваццатага стагоддзя не ўдалося стаць дзесяцігоддзем беларусізацыі, дзесяцігоддзем актыўнай стваральнай дзейнасці народа. Толькі некалькі гадоў пасля прыняцця 26 студзеня 1990 года Закона аб мовах у Беларускай ССР у небе над краінай лунаў дух беларусізацыі. Улетку 1994 года над ёю навісла сур'ёзная пагроза, якая з наступнага года, асабліва пасля майскага рэферэндуму, стала яшчэ больш страшнай. У выніку краіна ўступіла ў дзесяцігоддзе, якое, як ніякае іншае, вельмі моцна падарвала нацыянальныя асновы яе культурнага жыцця. Такога татальнага разбурэння іх не назіралася нават пасля задушэння царскімі войскамі нацыянальна-вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў 1863 - 1864 гады. Відаць, пры жаданні ўласны ўрад можа непараўнальна больш зрабіць па культурна - моўнай асіміляцыі свайго народа, чым якія-небудзь чужыя сілы.

Каб надаць свайму антыбеларускаму курсу ў галіне моўнай палітыкі хоць звонку дэмакратычны, інтэрнацыяналісцкі характар, афіцыйныя ідэолагі адрадзілі, сталі шырока прапагандаваць міф пра рускую мову як другую родную мову беларуса. Іх нікольк не стрымліваў факт, што ў ніводнага народа планеты Зямля няма дзвюх родных моваў і таму іх не можа быць і ў беларускага. Але ён, не выключаючы і дыпламаванай інтэлігенцыі, у агульнай большасці паверыў у гэтую хітра прыдуманую казачку. Тут пэўную ролю адыграла шырокае тыражаванне ў нас паняцця "родны" яшчэ за эсэсэсэраўскімі часамі, калі, асабліва не ўнікаючы ў сам сэнс, вельмі любілі ўжываць такія словазлучэнні: "родная партыя", "родны калгас", "родны ГУЛАГ", "родная школа"... У такой сітуацыі нескладана было палітыкам і іх ідэолагам пусціць ва ўжытак напярэдадні майскага рэферэндуму 1995 года словазлучэнне "родная руская мова беларусаў". Асаблівы ўпор на такое азначэнне яе рабілі і робяць ва ўсіх тыпах рускамоўных навучальных установаў краіны. І нямала моладзі верыць у гэтую бессаромную хлусню. Толькі самыя ўдумлівыя, з да канца не размытай нацыянальнай самасвядомасцю не пагаджаюцца з ёю і шукаюць выйсця з моўнага тупіка.

## Пачалі з мовы і адукацыі

У адпаведнасці з набытай у свеце практыкай і дзяржаўны чыноўніцкі апарат Беларусі, што прыйшоў да ўлады ў 1994 годзе, сваю антынацыянальную палітыку пачаў з вывядзення мовы карэннага насельніцтва з усіх сфераў грамадскай дзейнасці і, найперш, са сваіх службовых кабінетаў, усіх тыпаў навучальных установаў. Пасля майскага рэферэндуму 1995 года рэзка зменшыліся аб'ёмы падрыхтоўкі і выдання службовай дакументацыі на беларускай мове . Ёй нібыта зарвала падчас правядзення розных пасяджэнняў афіцыйнага характару. Дзяржава гарой стала, каб не дапусціць арганізацыі хоць адной на ўсю краіну беларускамоўнай вышэйшай навучальнай установы, хаця і добра ведала, што на ўсім еўрапейскім кантыненце ВНУ на роднай мове карэннага насельніцтва не было толькі ў "сувярэннай" Рэспубліцы Беларусь.

Адсутнасць беларускамоўнай вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы вельмі добра спрыяла адарваным ад нацыянальнага грунту кіраўніцтву Міністэрства адукацыі РБ і падначаленым яму звёнам, педагагічнай інтэлігенцыі выводзіць родную мову тытульнага этнасу з агульнаадукацыйных школ. Да гонару нацыянальна-самасвядомай часткі грамадства ёй удалося ад пачатку гарбачоўскай перабудовы і да прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі прыкладна ўдвоіць удзельную вагу беларускамоўных вучняў у агульным кантынгенце агульнаадукацыйных школ. У 1994 /95 навучальным годзе ў Менскай вобласці яна ўжо раўнялася 55%, у Гарадзенскай - 51 %. Толькі ў Менску гэты паказчык заставаўся крайне нізкім - 21%. Затое з агульнай колькасці вучняў падрыхтоўчых (першых) класаў у сталіцы па-беларуску навучалася 58%. Першае ж месца па дадзеным паказчыку займала Менская вобласць -91%, апошняе - Віцебская -62%. Здавалася, што нарэшце і ў нас школа стане асяродкам нацыянальнага жыцця, пачне ўзгадоўваць дзяцей у духу культурна-моўных традыцый роднага краю. Але зусім інакш глядзелі на яе асобы, якія знаходзіліся ў высокіх эшалонах улады . Будучы самі дашчэнту зрусіфікаванымі, яны жадалі, каб такімі прыходзілі ў самастойнае жыццё і новыя маладыя пакаленні беларускага народа. Гэтая шкодная, злачынная задума вельмі хутка пераўвасаблялася ў практыку. У першы навучальны год новага стагоддзя толькі ў школах Менскай вобласці палова іх кантынгенту навучалася ў беларускай мове, а ў Гомельскай - 20%, Магілёўскай - 21, Менску - 7. Такі антынацыянальны характар дзейнасці агульнаадукацыйнай школы цалкам адпавядаў настроям дзяржаўных дзеячоў і кіраўнікоў народнай адукацыі, таму яны не толькі нічога не рабілі, каб спыніць русіфікацыю школьнікаў, а, наадварот, усяляк садзейнічалі ёй. І як вынік, маштабы выкарыстання беларускан мовы ў навучальна- выхаваўчым працэсе агульна/адукацынных школ працягвалі звужацца, няўхільна набліжацца да крытычнага ўзроўню.

Мэтам русіфікацыі вучнёўскай моладзі служыла і служыць рашучае выключэнне з вучэбных планаў па беларускай літаратуры і гісторыі твораў і тэм, выкладанне якіх магло б істотна паўплываць на рост нацыянальнай самасвядомасці.

Практычна ўсё, што робіцца сучаснай дзяржавай у галіне народнай адукацыі, вельмі нязначна адпавядае нацыянальнаму інтарэсу беларусаў. Яна і па сёння прасякнутая тым рэакцыйным смярдзючым духам, які пасяліў у яе душыцель нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863-1864 гадоў віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў. Што адукацыя ў чужой мове - гэта нацыянальная трагедыя для любога народа, ведаюць нават людзі з няпоўнай сярэдняй адукацыяй. Ва ўладных структурах такіх ужо даўно няма. Там пераважаюць дыпламаваныя асобы, не выключаючы кандыдатаў і дактароў навук. І калі ўсе ці абсалютная большасць з іх з'яўляюцца прыхільнікамі рускамоўнай адукацыі, няцяжка ўявіць, на якой астранамічнай адлегласці знаходзяцца яны ад беларускай нацыянальнай ідэі, як уся іх практычная дзейнасць супярэчыць карэнным інтарэсам краіны. Некалі гісторыкам не будзе аніякіх цяжкасцяў адшукаць галоўных віноўнікаў страшэннага этнічнага заняпаду яе карэннага насельніцтва на старце дваццаць першага стагоддзя і трэцяга тысячагоддзя.

## Не тым насеннем засяваецца культурная ніва

Палітыку дзяржаўнага двухмоўя, уведзенага ў краіне ў адпаведнасці з вынікамі вышэйзгаданага майскага рэферэндуму, без прамаруджвання пастараліся спаўна выкарыстаць афіцыйныя ўстановы культуры, сярод работнікаў якіх заўжды быў і застаецца востры дэфіцыт на асобаў, здольных працаваць у нацыянальным культурна-моўным рэчышчы. У іх складзе стала пераважалі носьбіты рускай, а не беларускай культуры. Рэферэндум яны сустракалі з вялікай радасцю і з нечуванай да гэтага актыўнасцю сталі пладзіць рускамоўныя культурныя каштоўнасці на нашай зямлі, не зважаючы, што гэтым самым дэфармуюць нацыянальны патэнцыял духоўнага жыцця Беларусі, пазбаўляюць яго самабытнасці.

Проста не верыцца, каб нашы высокаадукаваныя палітыкі, узяўшы (а можа толькі для блізіру?) на сябе разам са сваёй афіцыйнай інтэлігенцыяй усю адказнасць за лёс краіны, не разумелі, што духоўнае жыццё яе ніколі не ўзбагаціцца, не стане болын самабытным і прывабным, калі ў ім будзе панаваць чужая культура, няхай сабе нават і руская. Пра гібельныя наступствы выкарыстання польскай, а затым рускай моваў у мастацкай творчасці беларускага народа яго грамадска-палітычныя і культурныя дзеячы добра ведалі ўжо дзвесце і болей гадоў таму назад. Вось чаму яшчэ ў маладым веку нашы слынныя песняры Янка Купала і Якуб Колас адмовіліся выкарыстоўваць на старонках сваіх твораў адпаведна польскую і рускую мовы. У супрацьлеглым выпадку і яны прайшлі б шлях Адама Міцкевіча, Фёдара Дастаеўскага, а нашая мастацкая літаратура засталася б ад гэтага ў вялікім пройгрышы. А вось сёння ў нас і высокія палітыкі, і адказныя за стан духоўнай творчасці народа інтэлектуалы зусім інакш глядзяць на перапампаванне беларускіх талентаў у рускамоўную культуру. І яны, на вялікую згубу народа, касякамі ідуць у яе. Бо маюць неабходную падтрымку ад уладаў, не выключаючы і больш высокага матэрыяльнага заахвочвання. Да таго ж афіцыйныя ідэолагі не стамляюцца сцвярджаць, што сапраўднага духоўнага росквіту Беларусь можа дасягнуць толькі праз неабмежаванае распаўсюджванне на яе тэрыторыі рускай культуры. Такія байкі ніяк не стыкуюцца з прагрэсіўнай сусветнай практыкай. Усе народы з высокім узроўнем культуры сталі такімі толькі дзякуючы ўзбагачэнню свайго духоўнага патэнцыялу ўласным, а не чужым матэрыялам.

Сёння, калі так моцна здэнацыяналізавана духоўнае жыццё краіны, выступаць яе таленавітым людзям у ролі донара і без таго моцна запанаванай тут рускай культуры крайне не разумна, вельмі не пажадана. Так могуць рабіць толькі асобы з нулявой беларускай нацыянальнай самасвядомасцю. Шкада, што іх у нас легіён, і колькасна ён працягвае расці. У гэтай бязрадаснай сітуацыі міжвольна прыходзіш да думкі, што нібыта ўвесь разгалісты чыноўніцкі апарат і прыцягнутая ім на службу інтэлігенцыя зусім не разумеюць нацыянальнага прызначэння беларусаў у сусветнай цывілізацыі і цалкам задаволены, што іх духоўнае жыццё няўхільна зводзіцца да звычайнага азадка культуры рускага народа. З вялікай горыччу даводзіцца канстатаваць, што мэтанакіраванае наданне дзяржавай прэстыжу рускамоўнаму пласту культуры Беларусі пераўтварыла яе ў самую адсталую ў Еўропе краіну па частцы выкарыстання нацыянальных здабыткаў у сукупнай духоўнай творчасці народа. Яшчэ ніколі ў нас не былі так скасабочаны суадносіны паміж нацыянальнай і запазычанай, створанай дома паводле чужых стандартаў культурамі. Перавага апошняй над першай ніколі не выведзе нас у разрад краін з высокай культурай. Жахліва, што гэтага не хочуць прызнаць не толькі палітыкі, але і самі дзеячы культуры, абсалютная колькасць якіх не ў ладах з роднай мовай, таму і робяць яны большы ўклад у развіццё і распаўсюджванне ў краіне рускамоўнай, чым беларускамоўнай культуры.

Праца на рускамоўным матэрыяле адрывае творчую інтэлігенцыю ад нацыянальных інтарэсаў беларускага народа, робіць яе калі не варожай, дык абыякавай да дзяржаўнага суверэнітэту краіны. Невыпадкова многія з такой зрусіфікаванай, далёкай ад нацыянальнай ідэі інтэлігенцыі ідуць нават паперадзе саміх дзяржаўных мужоў у пытаннях палітычнага аб'яднання Беларусі і Расіі. Асабліва рэльефна такое выявілася падчас сёлетняга Славянскага (больш правільна Рускага) базару) ў Віцебску, калі ладзілася супольнае выступленне артыстаў пакуль што ўяўнай Руска-беларускай саюзнай дзяржавы. Апошняй нам трэба баяцца, як агню, бо ў ёй аслабленая шматгадовай русіфікацыяй беларускасць не будзе мець аніякіх перспектыў на выжыванне.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Задачнік ад дэпутата

У выдавецтве “Народная асвета” выйшла кніга “Зборнік задач па фізіцы: дапаможнік для вучняў установаў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі” У. М. Здановіча.

У зборніку змешчаны задачы, рашаць якія дапаможа матэрыял, што вывучаецца ў курсе фізікі 7—9-х класаў. Змест задач адлюстроўвае самыя розныя бакі гісторыі беларускага народа і сучаснага жыцця нашай краіны. Краявіды беларускай прыроды, жывёлы і раслінны свет, прамысловасць, спорт Беларусі — усё гэта выкарыстаў аўтар пры складанні задач. Задачы дапамогуць вучням пры падрыхтоўцы да экзамену па фізіцы. Імі можна таксама карыстацца пры правядзенні віктарын, тэматычных і займальных вечарын па розных прадметах — фізіцы, гісторыі, геаграфіі.



Аўтар Уладзімір Мацвеевіч Здановіч нарадзіўся ў 1959 г. Працаваў настаўнікам сельскіх школ і школ г. Драгічына. У1995 г. на конкурсе «Настаўнік года» прызнаны лепшым настаўнікам Беларусі. Суаўтар вучэбных дапаможнікаў па фізіцы для агульнаадукацыйных школ, якія выходзяць у выдавецтве «Народная асвета».

У цяперашні час дэпутат Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, старшыня камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе.

Пра гэты зборнік нельга сказаць, што ён не нацыянальны каларыт. Гэты зборнік проста нацыянальны ад пачатку да канца. Вось некаторыя задачы са “Зборніка...” У. М. Здановіча.

*1. З дзяцінства мы памятаем радкі з верша Максіма Багдановіча “Зімой”: “Здароў марозны, звонкі вечар! Здароў скрыпучы мяккі снег!” А чаму снег скрыпіць пад нагамі ў час марозу?*

*33. Цеплыня згарання бярозавых дроў прыблізна на $k=1,5$ % меншая, чым сасновых. Як жа растлумачыць тое, што бярозавыя дровы цэняцца вышэй, чым сасновыя? Параўнайце шчыльнасць сасны і шчыльнасць бярозы.*

*65. Беларускі вучоны Я. А. Наркевіч-Ёдка (1847-1905), вывучаючы ўздзеянне электрычнасці на расліны, устанавіў, што электрычны ток стварае больш аптымальныя ўмовы для таго, каб расліны маглі засвойваць неабходныя ім хімічныя элементы, што знаходзяцца ў глебе. Чаму расліны пад уздзеяннем электрычнага току лепш засвойваюць хімічныя элементы?*

*66. У кінескопе тэлевізара “Віцязь-54” (г. Віцебск) паскараючае анoднае напружанне $U=16$ кВ, а адлегласць ад анода да экрана складае $d=30$ см. За які прамежак часу $\Delta t$ электроны праходзяць гэтую адлегласць?*

*123. У час аварыі на Чарнобыльскай АЭС выпалі атамы радыёактыўнага ізатопу Cs-137. Праз які прамежак часу $\Delta t$ распадзецца $k=75$% атамаў гэтага ізатопу, калі яго перыяд паўраспаду $T_{1/2} = 30$ год?*

*139. Ці патрэбна адсяляць людзей з тэрыторыі, забруджанай цэзіем - 137 з узроўнем забруджанасці $A = 2,0$ Кюры/км2, калі $A=1$ Кюры/км2 стварае гамафон $P = 15$ мкР/г, а гамафон $P_0 = 1$ мкР/г стварае дозу выпраменьвання $D = 0,05$ мЗв/год? Заўвага: адсяленне патрэбна, калі эквівалентная доза перавышае $D_0 = 1$ мЗв/год.*

*148. Алімпійская чэмпіёнка (2004 г.) з Брэста Юлія Несцярэнка прабегла дыстанцыю $s = 100$ м за прамежак часу $\Delta t = 10,93$ с. Вызначце, якая была сярэдняя скорасць $v$ бегу чэмпіёнкі.*

*202. У кнізе беларускага ваеннага спецыяліста К. Сіміяновіча “Вялікае мастацтва артылерыі” (1650) ёсць наступныя радкі: “ Чым даўжэйшаю будзе ручка молата і чым вышэй падыме руку майстар, які збіраецца нанесці ўдар, тым з большаю сілаю молат стукне па пастаўленым ніжэй шомпале. Прычыны гэтага трэба шукаць у прынцыпах механікі...” Якія ж гэта прынцыпы?*

Наклад кнігі складае 2000 асобнікаў.Яна багата ілюстраваная і можа служыць прыкладам таго, якім павінен быць нацыянальны падручнік.

*Яраслаў Грынкевіч.*




# Сустрэча з выбітным гісторыкам

26 кастрычніка ў сядзібе грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” адбылася чарговая сустрэча аматараў гісторыі на тэму “Гарадская цывілізацыя ў Беларусі ў XIX-XX ст.ст.” Выступоўцам быў вядомы беларускі гісторык Захар Шыбека. Ён ужо шмат гадоў займаецца вывучэннем гісторыі Менска. На сустрэчы можна было даве-дацца шмат чаго цікавага.

Вось, напрыклад, тое, што назва галоўнай вуліцы г. Менска змянялася 11 разоў. Яна называлася і Захар’еўскай, і ў гонар А. Міцкевіча, і Савецкай, і праспект Сталіна, і Ленінскі праспект, пасля – праспект Ф. Скарыны, зараз жа яна вядома пад назвай праспект Незалежнасці. Так, як у Кіеве Крышчацік, у Санкт – Пецярбурзе – Неўскі праспект. Так у Беларусі – праспект Незалежнасці з’яўляецца гонарам нашай сталіцы. Будынкі ў стылі сталінскага класіцызму ўтвараюць своеасаблівы музей пад адкрытым небам. Праспект стаў архітэктурнай каштоўнасцю.

Таксама абмяркоўваліся пытанні заснавання музея беларускай сталіцы – горада Менска, увекавечвання некаторых помнікаў, гісторыі адраджэння старых будынкаў, а таксама пераносу сталіцы краіны ў іншы горад так званага “закаранелага правінцыялізму”.

Гэтымі пытаннямі З.В. Шыбека зацікавіў слухачоў, некаторыя нават падзяліліся сваімі думкамі і меркаваннямі, які горад яны жадалі бы ўбачыць ў якасці беларускай сталіцы. Сустрэча на мой погляд атрымалася яскравай і каларытнай.

*Дубко Ганна, студэнтка 250 групы БДУКіМ*

# У В А Г А !

**Сустрэчы ў сядзібе ТБМ:**

**18 лістапада ў 18.00.** М. Чарняўскі. Захаванне і вывучэнне помнікаў гісторыі і культуры.

**22 лістапада ў 18.00.** У. Арлоў. Гістарычныя ваколіцы. Вандроўкі ў прасторы і часе.

**22 лістапада ў 19.30.** А. Анісім. Як стварыць суполку ТБМ.

**24 лістапада ў 18.00.** Л. Дзіцэвіч. Як жыць лепей ва ўмовах эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краіне.



| МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ | МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ |
|---|---|
| 220050, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 8<br>тэл: (017) 2270575, 2271688 | 220050, г. Минск, пр. Ф. Скорины, 8<br>тел: (017) 2270575, 2271688 |
| Р/р 3730201040010 у філіяле МГД Белінвестбанка г. Мінска, код 764 | Р/с 3730201040010 в филиале МГД Белинвестбанка г. Минска, код 764 |

№ 12/04-3/9372 от 21.10.2005 г.
от 16.10.2005 г. № 10841

**Председателю общественного объединения «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Трусову О. А.**

**О лотерее «Столица».**

Уважаемый Олег Анатольевич!

Минский городской исполнительный комитет повторно рассмотрел Ваше предложение по вопросу оформления лотерейного билета денежно-вещевой лотереи «Столица» на белорусском языке и сообщает следующее.

В соответствии с решением от 15 мая 2003 г. № 787 горисполкомом учреждена еще одна местная постоянно действующая денежно-вещевая мгновенная лотерея **«Родны горад»** со сроком ее проведения на территории города по 16 июня 2006 г.

Учитывая наличие учрежденной горисполкомом лотереи «Родны горад» с названием на белорусском языке, принято решение сохранить прежним оформление денежно-вещевой лотереи «Столица».

С уважением,

**Заместитель председателя М. А. Петрушин.**

*Пасля з’езду*

# Заслаўскі нацыянальны універсітэт – гучыць добра!

Чытаю матэрыялы IX з’езду ГА"ТБМ імя Ф. Скарыны" і думаю, што няма лепшага месца для нацыянальнай ВНУ, чым у нашым Заслаўі. Тут і чыгуначная станцыя называецца “Беларусь”. Сябры беларускай мовы, гісторыі і культуры зразумеюць мае аргументы і, магчыма, падтрымаюць ці зробяць свае прапановы. Успамінаецца Тартускі універсітэт у Эстоніі, некалькі вядомых з Еўропы ці ЗША, неправінцыйная Горацкая акадэмія.

У Заслаўі жыў князь – асветнік Ізяслаў, названы “кніжнікам”. Іншага такога унікальнага гістарычнага цэнтра, блізкага ад сучаснай сталіцы, няма. Дух легендарнай княгіні Рагнеды асвячае горад, званы Спаса-Праабражэнскай царквы заклікаюць сюды людзей. І той, хто аднойчы пазнаў нешта важнае на гэтай зямлі, вяртаецца ізноў. А нам і трэба, каб моладзь не з’язджала ў замежжа, ці нават у Расію, а годна працавала дзеля росквіту Бацькаўшчыны.

У Заслаўі ёсць вуліцы Сымона Буднага, Рагнеды, Якуба Коласа, Вялікая, Замкавая... Дзіўна, што няма вуліцы ці бібліятэкі імя Янкі Купалы, хоць ён - наш зямляк з Вязынкі. Можа, будзе менавіта тут Нацыянальны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны? Ужо адкрыта ў 2005 годзе “Заслаўская гімназія”. Верыцца, што будзе гуманітарны каледж. Калі б дачакацца універсітэта, то можна было б спакойна паміраць!

Друкаванае слова мае традыцыі ў Заслаўі: папернія, друкарня, газеты і архівы, фонды і музеі. Есць свая карданажна – паліграфічная фабрыка.

Малады таленавіты розум здольны ажывіць старадаўні не “аграгарадок”, а былую сталіцу Заслаўскага княства. Толькі дзе ж ён, той мудры князь ці княгіня?

З юных год трэба выхоўваць, як мне падаецца, не членаў БРСМ, а нацыянальную эліту /*чытай У. Караткевіча*/ беларускай дзяржавы. Такая вось мая жаночая думка.

*Яна Трубач, г. Заслаўе.*

# Успаміны пра Міхася Васілька

## (Да 100 –годдзя з дня нараджэння)

Не ведаю, хто ўпершыню расказаў пра мяне вядомаму паэту, тады супрацоўніку "Гродзенскай праўды" Міхасю Васільку. Магчыма, Янка Брыль перадаў звесткі пра тое, што ў Гродзенскім дзетдоме ёсць дачка яго сябра па партызанцы Міхаіла Іпатава, якая піша вершыкі, свайму калегу Аляксею Карпюку, а ўжо той — Міхасю Восіпавічу. Як бы там ні было, але аднойчы Клаўдзія Іванаўна, наша дырэктарка, выклікала мяне, дзевяцікласніцу, у свой кабінет і загадала:

— Заўтра пасля школы аднясеш свае вершы ў "Гродзенскую праўду" да Міхася Васілька.

— А дзе гэтая "Праўда"? Ды і вершы мае не перапісаныя, пакрэмзаныя... – спрабавала я пярэчыць. Але яна гэтак жа катэгарычна адмяла ўсе мае страхі (якія тлумачыліся хутчэй нечаканасцю:

— Газета ў канцы нашай вуліцы, а вершы перапішаш за ноч.

І ўткнулася ў свае паперы, так што я выйшла ад яе не толькі ў глыбокім задуменні, але і ў разгубленасці.

Становішча ў мяне на той час было такое: разам са сваімі сяброўкамі Мірай Назарка і Нінай Паўлавай я была пакінутая ў дзетдоме заканчваць дзесяцігодку, хаця ўся наша былая група сямікласнікаў была адразу ж пасля заканчэння школы расфармаваная па рамесных вучылішчах. Я не надта хацела заставацца – надакучыла хадзіць строем, спяваць "речёвки", рыхтаваць урокі ў агульнай кучы. Хацелася свабоды і адзіноты – хаця, калі падумаць, якая такая адзінота магла быць у рамесным вучылішчы? Аднак за мяне надта хадайнічала перад абласной управай асветы наша выхавацельніца і кіраўніца мастацкай самадзейнасці Іна Фёдараўна Луцэнка, якая, у адрозненне ад мяне, добра разумела, чым абернецца для дзявочага лёсу такая прыступка, як таварыства "фабзайцаў". А яшчэ – патрэба дзесяцігадовай адукацыі і магчымасць пасля паступіць у ВНУ. У сяброўках былі іншыя прычыны застацца ў дзетдоме: за Мірачку Назарка ваявала ейная маці пані Феліцыя, якая толькі што вярнулася з Сібіры, дзе адсядзела ні за што сем гадоў і хацела, каб дзяржава хаця неяк кампенсавала ёй страты. Што цікава: менавіта ейную кватэру на вул. Ажэшкі, каля вакзала, аддалі Міхасю Васільку, калі яна адправілася ў Сібір. Бываюць жа такія супадзенні! Дарэчы, гэтая мая сяброўка, якая сёння носіць прозвішча Каваленка, нарадзілася акурат дзень у дзень з Васільком – 14 лістапада, толькі, вядома, нашмат пазней, у 1944 годзе. Ніна Паўлава мела хворую маці і павінна была хаця б у нядзелю даглядаць за ёю). Мяне ж пакінулі толькі з-за таго, што я пісала вершы і ў абласным аддзеле асветы пашкадавалі рабіць мяне "фабзайчыхай" (фабзайцамі называліся навучэнцы фабрычных вучылішчаў, дзе вучылі на краўчых, металургаў і шахцёраў). Яны мяне ведалі – я выступала на абласных алімпіядах, а часам рабіла для іх заказы на так званую "вершаваную прадукцыю" аб выдатніках асветы (калі вершаваны подпіс пад партрэтам выглядаў асабліва эфектна ў вачах вышэйшага начальства. Мяне ж не надта абцяжарвала зарыфмаваць нешта накшталт "Даёт неустанно Анания детям прекрасные знания"). Рыфмавала я самыя цяжкія прозвішчы, нібыта пстрыкала арэхі. І было прыемна бачыць свае "вершыкі" пад партрэтамі нашых абласных настаўнікаў. Гэта, хаця і без майго подпісу, усё ж – публікацыі!

Дасюль я надрукавалася ў газеце "Зорка", дзе ў час конкурсу на лепшы верш аб прыродзе першае месца атрымаў мой твор "После дождя" (напісаны, вядома ж, на рускай мове, паколькі школа наша была рускамоўная). Яшчэ было два вершы, змешчаныя ў часопісе "Бярозка" – ужо на беларускай мове, паколькі я паспела да таго часу з'ездзіць у Менск на нейкі семінар і захоплена пачала пісаць на мове беларускай. Дык што аднесці ў "Гродненскую праўду"?

Асоба Міхася Васілька – знанага паэта былой Заходняй Беларусі, падпольшчыка і змагара з фашызмам, патрабавала вершаў не абы – якіх. І таму я ўначы не толькі перапісала ўсё, што ў мяне было начыркана на лістках, але і сачыніла нейкі дужа патрыятычны верш і паклала яго паверх свайго танюткага стосіка.

Адшукаць "Гродзенскую праўду" было сапраўды проста. Хаця яна і не знаходзілася, як казала дырэктарка, у канцы вуліцы Леніна, па якой мы, тры дзевяцікласніцы, штодзень ішлі ў гарадскую школу № 7 па вуліцы Кірава, але там, амаль каля школы, за мастом направа, газета і месцілася.

Міхась Васілёк, якому не было яшчэ і пяцідзесяці чатырох, выглядаў немаладым і хваравітым, сутуліўся і ўвогуле рабіў уражанне чалавека, які смяротна стаміўся ад жыцця і хацеў бы аднаго – схавацца ад надаедных вершаплётаў, ад газетных палос і ўвогуле ўсяго рэдакцыйнага цяжару. Толькі што, на маіх вачах, ён адбіўся ад нейкага маладога генія, які чытаў вершы з завываннем і пасля кожнай страфы прыстукваў цяжкім, у асеннім брудзе, чаравікам па падлозе так, што ўздрыгвала на стале чарніліца. Калі надыйшла мая чарга мучыць яго вершамі, ён уздыхнуў, узяў стосік і стаў чытаць. Вочы яго былі пачырванелымі і пакутлівымі.

Патрыятычны мой верш, відаць, зрабіў на яго тое ж ўражанне, што і завыванне генія. Ён моўчкі адклаў яго ўбок, пачаў цярпліва чытаць іншыя. Першы, другі, трэці...

Калі ён узняў галаву, я раптам убачыла, што вочы ў яго – пранізліва – сінія і зусім маладыя.

Калі быў прачытаны апошні вершык, ён усміхнуўся і зусім іншым голасам загаварыў:

— Ну што ж, малайчына. Русізмаў тут поўна, але ёсць вобразы. Ёсць настрой. Будзем друкаваць...

Цяпер я ўжо і не памятаю, якія менавіта вершы былі надрукаваныя ў "Гродзенскай правде". Памятаю толькі ганарар , вялікі па тым часе – ажно дванаццаць рублёў! Я купіла на яго цукерак, якія раздала ў групе. Была вялікая радасць ад таго, што нешта маю раздаваць – дасюль жа мяне заўсёды частавалі іншыя, асабліва ж Міраслава, чыя маці нядаўна вярнулася з сібірскіх лагераў.

Друкаванне ў "Гродненской правде" было важнае і па той прычыне, што яно дазволіла мне пачувацца сваёй у літаратурным аб'яднанні пры газеце і дало выхад на Гродзенскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Колішні кіраўнік яго, Аляксей Карпюк, адразу ж узяў мяне пад сваё крыло і пачаў пастаянна запрашаць на выступленні, якія я нецярпліва чакала, бо яны дазвалялі мне прапускаць урокі ў школе. Некалькі разоў выступала я і разам з Міхасём Васільком.

Ён быў вельмі вядомым на Гродзеншчыне. І не толькі вядомым, але і любімым. Яго паэзія, простая і трапная, мела свайго шматгадовага чытача. Думаю цяпер, што феномен Міхася Васілька можна параўнаць хіба з тым паэтычным бумам 60-х гадоў, калі паэзія бурліла на стадыёнах, збірала тысячныя аўдыторыі ў інстытутах. Нездарма пасля ў многіх сваіх выступленнях Аляксей Карпюк узгадваў такі эпізод: калі яны з Міхасём Восіпавічам на пачатку 50-х гадоў прыехалі ў Скідаль і першаму далі слова яму, маладому тады пісьменніку, то ўся запоўненая сялянскімі фурманкамі плошча загула: " Васілька! Васілька!", і ён змушаны быў перапыніць сваё выступленне і саступіць месца Васільку...Дарэчы, хачу ўзгадаць і зусім нядаўні эпізод: у Атаве, калі я гасцявала ў спадарыні Івонкі Сурвілы, старшыні Рады БНР, яна, расказваючы пра свайго мужа Янку, успомніла, што любімым яго вершам з самага маленства быў верш "Эх, каб грошы, толькі грошы!". Аўтара яна не ведала. Я з радасцю выслала ёй тэкст гэтага вядомага верша, які напамяць ведалі сотні тысяч беларусаў...

Дык вось, выступленні Міхася Васілька вызначаліся, калі так можна сказаць, нейкай асаблівай сціпласцю. Ён чытаў, як быццам расказваў блізкаму сябру нейкае здарэнне – нягучна, без афектацыі. Але ўсе слухалі, стаіўшы дыханне, дый часта выступленнем кіравалі чытачы. Яны патрабавалі: " Як я пана перанёс!", "Эх, каб грошы!" – і ён чытаў вершы, і было бачна, як варушацца вусны ў слухачоў, якія паўтараюць за ім любімыя радкі...

Да мяне ён ставіўся як да блізкага чалавека – напрыклад, унучкі. Шкадаваў – я бачыла ў яго вачах заўсёднае спачуванне, нават аднойчы пакрыўдзілася: "Вы глядзіце на мяне, як на інваліда!" Я не адчувала сябе ні няшчаснай, ні нават сіратой – вакол жа былі яшчэ больш за мяне абдзеленыя лёсам дзеці, якія часта нават не ведалі, хто іхнія бацькі. А ён ласкава ўсміхаўся і нічога не адказваў. Гаварыць лішняе не любіў, нават калі і не згаджаўся...

Аднойчы перад чарговым літаратурным аб'яднаннем ён папрасіў занесці яму вершы дахаты – мабыць, блага сябе пачуваў, а трэба было рыхтавацца да паседжання. Памятаю, як здзівіла мяне больш чым сціплая абстаноўка кватэры – даматканыя дарожкі, жалезны ложак. Тады я не разумела, што ён амаль не меў ганарараў, таму што сапраўды быў надта стомлены жыццём і выпрабаваннямі, а творы патрабуюць не толькі натхнення, але і звычайных чалавечых сілаў. Заробак як літкансультанта не дазваляў надта раскашавацца. Тады ж, мабыць, я і бачыла яго апошні раз, бо на тое літаратурнае аб'яднанне не пайшла – у дзетдоме было нейкае свята. Запомніўся твар зжаўцелы і пакутлівы, ціхі голас, вочы – як быццам ён стаяў ужо на другім беразе вялікай чалавечай ракі...

На яго пахаванні 3 верасня 1960 года я не была. Тады наш дзіцячы дом рабілі інтарнатам, яго толькі што перавялі ў новы будынак на Нёмане, і там не было тэлефонаў. Да таго ж толькі што прыехалі з піянерскага лагеру, пачаліся заняткі, мітусня і новы навучальны год.

Яго страту я адчувала як страту блізкага чалавека. Ён быў адным з тых, хто клаў цвёрдыя цагліны ў балота, якое хацела зацягнуць мяне, як іншых дзяўчат – дзетдомавак у бессямейнасць, адчай, жыццёвую неўладкаванасць. Становячыся на тыя цаглінкі, я выкарасквалася з балота, цягнулася да вышэйшай адукацыі, да стаўлення сябе як асобы.

Можа быць, менавіта таму, паступіўшы на рускае аддзяленне БДУ імя Леніна, я вырашыла для сябе пісаць дыпломную працу на беларускім аддзяленні, і ў памяць аб Міхасю Васільку ўзяла тэму дыпломнай працы "Заходнебеларускі паэт Міхась Васілёк." Гэта выклікала напачатку вялікае здзіўленне: яшчэ не было выпадку, каб "русалкі", як нас называлі, звярталіся да беларускай тэматыкі дыпломных, а ў дадатак яшчэ і на беларускай мове! Аднак паставіліся да мяне з разуменнем, далі ў навуковыя кіраўнікі Сцяпана Хусейнавіча Александровіча, і дыпломную працу я з поспехам абараніла.

Думаю цяпер – трэба пашукаць тую дыпломную, бо шмат там "накапана" было таго, што і пасёння не адкрыта для шырокай грамадскасці. Працавала ж я над гэтай тэмай не дзе-небудзь, а ў Вільні, у Дзяржаўным гістарычным архіве, а жыла ў невялічкай гасцінічцы пры Саюзе пісьменнікаў Літвы. Уладкаваў мяне туды – бясплатна! – Альбінас Жукаўскас, колішні старшыня Літаратурнага фонду Літвы і вялікі прыяцель беларусаў. Я і зараз узгадваю яго часта і з вялікай цеплынёй. Немалады, вельмі інтэлігентны, ён меў, здаецца, маці – беларуску і досыць добра гаварыў па-нашаму. А. Жукаўскас падарыў мне незабыўныя дні, асабліва ж вечары, калі ў гэтым міні–гатэльчыку я бывала адзінай насельніцай. Сыходзіла дзяжурная, пажадаўшы мне добрай ночы. Я піла гарбату, глядзела, як на спачатку ярка – ружовым, пасля ружова–попельным, а затым і сінім небе паступова цямнелі абрысы суседняга касцёла. Іх жа я бачыла, прачынаючыся нібыта ў нейкай казцы. Пасля ішла па ранішніх вуліцах Вільні, заходзіла снедаць у якую – небудзь кавярню ( так не падобную і ў тыя, савецкія часы на нашыя сталоўкі!), а пасля да вечара гартала пажоўклыя газеты, якія за дзесяцігоддзі кранаў хіба што Арсень Ліс ды нястомны Генадзь Кісялёў, і выпісвала радкі з вершаў Васілька.

Гледзячы цяпер на сябе тую, жахаюся, што я была гэткай легкадумнай і не зусім разумела, што гэтыя імгненні не паўторацца, а казкі жыццё будзе даваць у будучым строга па адмераных мікраскапічных дозах. ТАКАЯ Вільня ў маім жыцці ўжо не паўтарылася ніколі. Хаця пазней, працуючы на беларускім тэлебачанні рэдактаркай, я нямала перадач зрабіла менавіта па архіўных дакументах – і пра Камілу Дунін – Марцінкевіч, і пра Валянціна Таўлая, і пра удзельнікаў Грамады. Ды гэта – іншая тэма. А тады, у час падрыхтоўкі маёй дыпломнай, маючы колькі месяцаў вызвалення ад працы, я часта наязджала ў Вільню і адкрывала для сябе вялікі беларускі "пласт" пасляваеннага беларускага жыцця. Тады ж пазнаёмілася з Зоськай Верас, Антонам Фабіянавічам Шантырам, Галінай Войцік, Янкам Шутовічам і ягонай жонкай Онай Міцютэ і многімі іншымі – і ўсё гэта дзякуючы Васільку...

Ягоны воблік і доля былі настолькі значнымі для мяне ( асабліва барацьба за беларускасць, якую я тады проста не магла аддзяліць ад камуністычнага прымесу), што я ў сваёй другой кніжцы вершаў "Ліпеньскія навальніцы" (1973 год) прысвяціла яму верш, які доўга чытала ў час розных сустрэчаў перад самай рознай публікай:

***МІХАСЮ ВАСІЛЬКУ***

*Цёмнай дажджліваю ноччу*
*Шашаль шуфляду точыць,*
*Газнічка скрыпіць з адчаем,*
*Ты – грамату вывучаеш.*

*Пад стомленымі рукамі*
*Кладуцца вершы радкамі.*
*Крамола ў хаце – вершы!*
*І цэнзар твой самы першы*
*Пан камендант – смяецца:*
*"Быдла ў паэты рвецца!"*
*За кожны радок плаціў*
*Нямногім, што меў у жыцці...*
*Ападалі вячэрнія росы*
*На дзявочыя косы.*

*Табе не часта было іх кранаць –*
*У пастарунках ад болю канаць.*
*І верыць, у болю і крыўдзе,*
*Што праўда ўсё – ткі прыдзе...*

# Сяргей Паўловіч – асветнік і духоўны настаўнік

Сёлета мінула 130 гадоў (25 верасня) ад дня народзінаў і 65 (16 верасня) гадоў па смерці Сяргея Паўловіча, аднаго з прыкметных асветнікаў, рэлігійных і грамадскіх дзеячаў 20-х—30-х гг. мінулага стагоддзя ў Заходняй Беларусі. Ягоным угодкам былі прысвечаныя царкоўна-краязнаўчыя чытанні, якія адбыліся 24 верасня на багаслоўскім факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Зладзіла іх Беларускае Брацтва ў гонар Віленскіх пакутнікаў. Гэта сталася практычным крокам на шляху вяртання неацэненых належным чынам імёнаў нашых папярэднікаў, што пакінулі багатую спадчыну, вартую вывучэння і выкарыстання.



Сяргей Паўловіч (1875–1940)

Нарадзіўся Сяргей Паўловіч у сям'і святара, протаіерэя Канстанціна у вёсцы Асавец Кобрынскага павету. Цяпер – гэта Драгічынскі раён Берасцейскай вобласці. Ён атрымаў добрую па тым часе духоўную адукацыю: спачатку скончыў Літоўскую праваслаўную семінарыю ў Вільні, а затым — Кіеўскую духоўную акадэмію, дзе ў 1899 г. абараніў ступень кандыдата багаслоўя на тэму "Гісторыя ўніяцка-жамойцкага сабора". Хутчэй за ўсё Сяргей Паўловіч не прымаў сан святара. Усё сваё жыццё ён прысвяціў народнай адукацыі, праваслаўнаму асветніцтву і грамадскай дзейнасці. Працаваў выкладчыкам настаўніцкай семінарыі і жаночай гімназіі ў Рагачове, выкладчыкам Ваўкавыскай павятовай навучальні, дзе навучаў дзяцей Закону Божаму; інспектарам народных школ Ваўкавыскага павету. Пэўны час выкладаў нават геаграфію ў Жыровіцкай семінарыі. На пачатку 20-х гадоў пераехаў у Вільню, дзе стала пражыў да канца сваіх дзён. Тут ён настаўнічаў, быў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі.

У асобе Сяргея Паўловіча ўдала спалучаліся здольнасці педагога-тэарэтыка, практыка і метадыста. Ён шмат зрабіў дзеля пашырэння асветы на роднай мове ў Заходняй Беларусі. Яму належыць ідэя працоўнай школы, канцэпцыю якой лаканічна, усяго на 16-ці друкаваных старонках, ён выклаў у сваёй брашуры "Аб арганізацыі беларускай працоўнай школы". Сутнасць народнай працоўнай школы ён бачыў у гарманічным развіцці фізічных, разумовых і духоўных здольнасцяў вучняў. Сяргей Паўловіч — аўтар школьных падручнікаў і навучальных дапаможнікаў: "Пішы самадзейна", "Метадычныя ўвагі да пасобніка "Пішы самадзейна", "Першыя зярняткі", а таксама зборніка "Засеўкі", выдадзенага, дарэчы, лацінкай. Выступаў супраць паланізацыі беларускіх школ, за што ў 1928 годзе быў пазбаўлены ўладамі буржуазнай Польшчы права выкладання ў Віленскай беларускай гімназіі. Ягоная дзейнасць разглядалася як антыўрадавая, за што ў 1930 годзе яго двойчы арыштоўвалі.

Сяргей Паўловіч – прыкметны грамадскі і культурна-асветны дзеяч. Ён узначальваў Таварыства беларускай школы, удзельнічаў у працы Беларускага навуковага таварыства ў Вільні, быў членам рэдкалегіі часопіса "Беларускі летапіс", выдаваў і быў галоўным рэдактарам дзіцячага царкоўнага культурна-асветніцкага часопіса "Снапок", на старонках якога змяшчаліся матэрыялы пра беларускую мінуўшчыну, гісторыю беларускай царквы, а таксама літаратурныя творы, у тым ліку вершы Максіма Танка, Наталлі Арсенневай, — усё, што выхоўвала пачуццё любові да свайго, да сваёй Радзімы. У 1929 годзе ён выдаў брашуру "Пазашкольная асвета. Культурна-асветная праца ў гуртках ТБШ".

Царкоўна-краязнаўчыя чытанні адгарнулі новую старонку ў дзейнасці Сяргея Паўловіча як рэлігійнага асветніка, пра што замоўчвала гістарыяграфія савецкага перыяду. Як багаслоў, ён лічыў адной з асноўных функцый навучання духоўную асвету на роднай мове. Як спалучыць навуку і багаслоўе, рэлігійнае з свецкім – пытанні, што хвалявалі тагачасны віленскі асяродак беларускамоўнай інтэлігенцыі, да якога належаць такія постаці як Вячаслаў Багдановіч, Іван Краскоўскі, Канстанцін Зноска, Аляксандр Коўш, Аляксандр Вернікоўскі, Мікалай Багародскі. Менавіта ім мы абавязаны праявам беларускасці ў праваслаўным жыцці: выкарыстанню беларускай мовы не толькі ў духоўнай адукацыі, але і ў пропаведзях, нават у царкоўным справаводстве. Трэба адзначыць, што 20-я гады былі перыядам, спрыяльным для праваслаўнага асветніцтва. Практычныя захады па беларусізацыі праваслаўнай царквы сталіся магчымымі менавіта ў тых гістарычных варунках. Гэта быў час, калі польская праваслаўная царква праводзіла палітыку паланізацыі насельніцтва. Падручнікі на рускай мове былі забароненыя польскім урадам, а падручнікаў на польскай мове таксама яшчэ не было. Утварыўся такі своеасаблівы вакуум. На патрэбу часу актыўна адгукнулася віленская інтэлігенцыя. І той вакуум быў даволі хутка запоўнены беларускімі падручнікамі. Вялікую ролю ў гэтым адыграла выдавецтва Беларускай Віленскай гімназіі, дзе друкаваліся кнігі на беларускай мове. Дзякуючы гэтакаму збегу абставін, было даказана на практыцы, што беларуская мова можа паспяхова выкарыстоўвацца ў набажэнствах у праваслаўных храмах. Была нават спроба перавесці адзін з прыходаў у Вільні цалкам на беларускую мову.

Сяргей Паўловіч пакінуў багатую літаратурную царкоўна-багаслоўскую спадчыну. Ён па сутнасці быў адным з першых, хто, сярод іншых, быў прызнаны лепшым перакладчыкам рэлігійных тэкстаў. Ва ўмовах нераспрацаванай на той час лексікі ён зрабіў пераклад на беларускую мову Святога Пісання дзеля выкладання ў школах і гімназіях Закона Божага, стаў аўтарам падручнікаў – "Сьвяшчэнная гісторыя Старога Завету. Для беларускіх пачатковых школ і малодшых класаў гімназій" і "Сьвяшчэнная гісторыя Новага Завету. Падручнік для беларускіх школаў і самаадукацыі", а таксама першага Праваслаўнага малітваслова на беларускай і царкоўнаславянскай мовах. Акрамя таго, ён выдаваў Беларускі Праваслаўны каляндар. І сёння Петрапаўлаўскі прыход і Брацтва ў гонар Віленскіх пакутнікаў лічаць сябе пераемнікамі Сяргея Паўловіча ў перакладчыцкай справе.

Пра Сяргея Паўловіча як першага перакладчыка Святога Пісання, стваральніка і пачынальніка беларускай багаслоўскай тэрміналогіі распавядаў на чытаннях прафесар Іван Чарота. Жыццё Праваслаўнай Царквы на старонках заходнебеларускага рэлігійнага друку - тэма, якую абрала старшы выкладчык Галіна Астрога. Прафесар Валянціна Снапкоўская выступіла з паведамленнем аб педагагічнай дзейнасці юбіляра. Асветніцкай дзейнасці беларускай інтэлігенцыі ў Вільні 1920-1930 гг. было прысвечана выступленне старшага навуковага супрацоўніка Лідзіі Кулажанка. Шкада толькі, што не ўсе запланаваныя даклады прагучалі на чытаннях. У ліку іх тэма "Малавядомыя старонкі ранняга перыяду жыцця і творчасці Сяргея Паўловіча", якую меўся асвятляць прафесар Валеры Чарапіца.

Удзельнікі чытанняў выказалі пажаданне, каб матэрыялы чытанняў былі выдадзеныя асобнай брашурай, а таксама падтрымалі прапанову аб ўшанаванні памяці Сяргея Паўловіча. Найперш, на ягонай малой радзіме. З гэтай нагоды было вырашана звярнуцца да мясцовай улады, кіраўніцтва школы, святара Свята-Міхайлаўскай царквы ў Драгічыне, дзе хрысцілі малога Сяргея. На жаль, імя такой унікальнай постаці свайго земляка нават не згадваецца ў раённай кнізе "Памяць". Гаворка ішла і пра неабходнасць далейшага вывучэння постаці Сяргея Паўловіча, яго радаслоўнай.

Падчас чытанняў узнікла дыскусія адносна ужывання ў сучасных перакладах слоў "благаславенне" і "Ражджаство". Сяргей Паўловіч ужываў тэрміны – "багаславенне", "Дабравешчанне", "Ражаство". Біблійная ж камісія, якая сёння працуе над перакладамі рэлігійных тэкстаў, лічыць правільным казаць: "благаславіць", "Благавешчанне", "Ражджаство". Іван Чарота патлумачыў такую пазіцыю камісіі тым, што, нягледзячы на негатыўнае значэнне часткі слова "блага", тэрмін гэты традыцыйны, ён сустракаецца ў фальклоры, ад яго не адмовіліся іншыя славянскія народы. Паводле Івана Чароты слова Ражджаство не можа перакладаецца як Нараджэнне, паколькі гэта паняцце адышло ад самога факта нараджэння Ісуса Хрыста. Гэта не ёсць Дзень Нараджэння. Таму гаварыць, што Ражджаство гэта Нараджэнне Хрыстова або Каляды няправільна.

Шмат каму з прысутных такое абгрунтаванне падалося супярэчлівым і сумнеўным, бо ў Беларускім Праваслаўным каляндары тэрмін "Ражджаство" выкарыстоўваецца толькі ў дачыненні да Ісуса Хрыста, але мы не знаходзім яго ў назвах такіх вялікіх гадавых святаў як Нараджэнне Іаана Прадцечы і Нараджэнне Багародзіцы.

Падчас чытанняў была арганізавана выстава кніг Сяргея Паўловіча з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі. Адбылася літургія ў Свята-Петра-Паўлаўскім саборы на Нямізе і ліцця ў памяць Сяргея Паўловіча ў Багаслоўскім інстытуце.

*ІрМа.*



СЬВЯШЧЭННАЯ ГІСТОРЫЯ СТАРОГА ЗАВЕТУ

з малюнкамі ў тэксьце і геаграфічнымі картамі.

Уложана для беларускіх пачатковых школаў і малодшых класаў гімназіяў вучыцелем Закону Божага у Віленскай Беларускай Гімназіі, кандыдатам багаслоўя

СЯРГЕЕМ ПАЎЛОВІЧАМ.

Выданьне аўтора.

ВІЛЬНЯ 1926

## Легенда пра Камайскі касцёл

Было калісьці вялікае і прыгожае мястэчка ля возера. А самым прыгожым будынкам быў касцёл – белы і высокі, з залатымі вежамі і званіцамі, са срэбнымі званамі. Стаяў ён на самым высокім месцы, і далёка па наваколлі разносіўся яго звон, клікаў людзей на малітву.

Але напалі ворагі, разрабавалі мястэчка, у палон яго жыхароў забралі, зруйнавалі з зямлёю касцёл, бо былі яны паганцы і ненавідзелі хрысціян.

Пракацілася цёмная навала, зарасло месца лесам і бур'янам, усе абыходзілі і аб'язджалі яго . Дрэнна жылося людзям навакольных вёсак. Не чувалася меладычнага звону касцельных званоў, не было дзе адзначыць свята, пахрысціць дзяцей.

Але вось аднойчы на свята Божага нараджэння людзі пачулі звон касцельных званоў. Рушылі яны на звон і ўбачылі, што на ранейшым месцы былога мястэчка зноў стаіць касцёл. Хто і калі ўзвёў яго, невядома. Быў ён падобны на ранейшы. Але не такі высокі і грацыёзны. Сцены яго былі тоўстыя і моцныя, вакол была каменная агароджа, але ўсё роўна быў ён велічны і прыгожы. І людзі з радасцю пайшлі ў яго, каб узнесці хвалу Богу, ачысціцца душою.

І ў хуткім часе мясцовыя жыхары пачалі высякаць лес і сяліцца вакол касцёла. Так тут зноў узнікла мястэчка, і назвалі яго Камаі, што азначае "буралом", "ламачча".

І ў часы варожай навалы касцёл не раз ратаваў людзей ад смерці. За яго тоўстымі сценамі яны не раз знаходзілі сабе прытулак, хаваліся ад варожага абстрэлу. І зараз у яго сценах бачны ядры шведскіх гармат, кулі нямецкіх вінтовак.

Кажуць, што пад яго скляпеннямі хаваўся народны заступнік Кастусь Каліноўскі.

І сёння стаіць касцёл у цэнтры мястэчка, блішчыць на сонцы яго страха. Бялеюць сцены, звіняць званы – і людзі спяшаюцца на святую імшу.

Касцёл адсвяткаваў днямі сваё 400 - годдзе.

Дзякуй Табе, Божа, за цэрквы і касцёлы, за Твае святыя храмы, за тое, што даеш праз іх магчымасць дакрануцца душою да Неба.

*Генавэфа Дубіковіч, настаўніца Мулярскай школы. Пастаўскага раёна.*





# Беларус Піліп Орлік (1672-1742) - аўтар першай украінскай канстытуцыі

Піліп Орлік, гетман Украіны, вядомы ў гісторыі як аўтар першай украінскай канстытуцыі, напісанай ім за некалькі дзесяцігоддзяў да амерыканскай канстытуцыі 1787 г., канстытуцыі 3 траўня 1791 г. у Рэчы Паспалітай і французскай канстытуцыі 3 верасня 1791 г.

Паходзіў з беларускага шляхцкага роду герба "Навіна". Бацька Піліпа,



*Герб Орлікаў "Навіна"*

Стэфан Орлік, католік па веравызнанні, удзельнічаў у вайсковых паходах і загінуў у бітве пад Хоцінам 11 лістапада 1673 г., у якой войскі вялікіх гетманаў – польскага Яна Сабескага і беларуска-літоўскага Міхала Казіміра Паца разграмілі турэцкую армію Хусейна-пашы.

Піліп Орлік (ці як яго называлі на Украіне Піліп Сцяпанавіч) нарадзіўся 22 кастрычніка 1672 г. у вёсцы Касута Ашмянскага павету (цяпер Вілейскі раён). Маці яго Ірына Малахоўская паходзіла з праваслаўнага шляхецкага роду і ахрысціла хлопчыка па праваслаўнаму абраду. Хлопчыку быў год, калі бацька загінуў на вайне. Маці займалася выхаваннем сына. Добрую адукацыю Піліп Орлік атрымаў у Віленскім езуіцкім калегіюме. Пасля заканчэння вучобы Піліп працягваў удасканальваць адукацыю ў праваслаўным Кіева-Магілянскім калегіюме (якому пазней, у 1701 г. былі нададзены правы і тытул акадэміі).

Кіеў з невялікай акругай на правым беразе Дняпра ўваходзіў тады ў склад гетманскай Украіны (Левабярэжнай Украіны), якая была аўтаномнай у складзе Расійскага царства. Гетманам Украіны быў у той час Іван Сцяпанавіч Мазепа.

Падчас вучобы ў Кіева-Магілянскім калегіюме Піліп Орлік вывучаў мовы, гісторыю, геаграфію, літаратуру і багаслоўе. Навучанне адбывалася на украінскай мове. Выпускнікі калегіюма знаходзілі працу ва ўстановах Украіны і ў Праваслаўнай царкве. У 1693 г. П. Орлік скончыў вучобу і атрымаў пасаду пісара канцылярыі кіеўскага мітрапаліта. У наступным годзе ён быў прыняты ў гетманскую канцылярыю і пераехаў у сяло Батурын (на Чарнігаўшчыне), дзе знаходзілася рэзідэнцыя гетманаў Украіны.

Здольны і адукаваны службоўца звярнуў увагу гетмана Івана Мазепы. У 1702 г. Піліп Орлік заняў вельмі важную пасаду ў казацкай адміністрацыі – генеральнага пісара. Цяпер ён не толькі ўзначальваў гетманскую канцылярыю, але і займаўся паўсядзённымі справамі кіравання краінай. Кар'еры П. Орліка дапамагла яго жаніцьба. У 1698 г. ён ўзяў шлюб з Ганнай, дачкой палтаўскага палкоўніка Паўла Герцыка, уплывовага прадстаўніка казацкай старшыны. П. Орлік меў і да таго маёнткі. Жонка прынесла новыя. І. Мазепа стаўся хросным бацькам іх першынца Грыгорыя, які нарадзіўся ў 1702 г.

У пачатку XVIII в. выявіліся супярэчнасці паміж расійскім царом Пятром I і часткай казацкай старшыны. Цар намагаўся абмежаваць аўтаномію Украіны. Казацкая арыстакратыя і частка казакоў супраціўляліся гэтаму. Яна намагалася захаваць свае вольнасці і пашырыць самастойнасць Украіны.

Добра пазнаўшы Піліпа Орліка, гетман І.С. Мазепа пачаў даручаць яму і тайныя справы, устанавіўшы падчас Паўночнай вайны, галоўнымі ўдзельнікам якой былі Расія і Швецыя, кантакты са стаўленнікам шведскага караля Карла XII польскім каралём Станіславам Ляшчынскім, супраціўнікам Пятра I.

У верасні 1707 г. гетман Іван Мазепа раскрыў Піліпу Орліку свае планы дасягнення незалежнасці Украіны. Карыстаючыся цяжкасцямі Расіі ў вайне са Швецыяй. У пачатку 1708 г. было падрыхтавана трохбаковае пагадненне паміж Карлам XII, Станіславам Ляшчынскім і Іванам Мазепам. У гэтым дагаворы быў артыкул аб поўнай незалежнасці Украіны як Левабярэжнай (што была ў складзе Расіі), так і Правабярэжнай (у складзе Польшчы). У тэксце было запісана... "Украіна абодвух бакоў Дняпра з войскамі Запарожскім і народам Маларасійскім мае быць вечнымі часамі свабоднаю ад усякага чужога панавання". Пазней тэкст дагавора стаў падставай для падрыхтоўкі П.Орлікам Канстытуцыі Украіны 1710 г.

Гетман Іван Мазепа не адкрываў сваіх планаў, але прыход арміі Карла XII на Украіну восенню 1708 г. вымусіў яго прыняць рашэнне далучыцца да шведскага караля з часткай старшыны і казакоў. Сярод іх быў і Піліп Орлік.

І. С. Мазепа пры набліжэнні арміі расійскага генерала А.Д. Меншыкава ў апошні момант уцёк з Батурына і 25 кастрычніка 1708 г. склаў прысягу на вернасць Карлу XII. Меншыкаў заняў Батурын. Па яго загаду сяло было зруйнавана і спалена, а большая частка жыхароў перабіта. 6 лістапада ў Глухаве ў прысутнасці Пятра I казацкая старшына выбрала гетманам старадубскага палкоўніка Івана Скарападскага. Праваслаўная царква па загаду Пятра I абвясціла Мазепе анафему, якая была адменена ў Кіеве ў 1918 г. падчас гетманства Паўла Скарападскага.

Запарожская Сеч стала на бок Мазепы. Таму ў траўні 1709 г. туды была паслана групоўка расійскага войска на чале з палкоўнікам Пятром Якаўлевым. Сеч была ўзята. Частку казакоў пакаралі смерцю. Частка далучылася да войска І. Мазепы, частка ўцякла да Чорнага мора і там стварыла Алешкаўскую Сеч. Усе забудовы ў Запарожскай Сечы былі зруйнаваныя. Частку запарожцаў салдатамі ўключылі ў царскую армію (тады служба была пажыццёвай).

Піліп Орлік разам з гетманам І. Мазепам быў удзельнікам Палтаўскай бітвы 8 ліпеня 1709 г. і таксама быў адным з уцекачоў разам з Карлам XII і І. Мазепам пасля паражэння шведскай арміі ў бітве пад Палтавай. Рэшткі шведскай арміі і казакі атрымалі дазвол турэцкага султана размясціцца ў турэцкай крэпасці Бяндэры і ў наваколлі ў Буджаку (цяпер паўднёва-усходняя Малдова), дзе тады жылі нагайцы (буджакція татары), васалы турэцкага султана.

18 ліпеня 1709 г. уцекачы непадалёк ад Ачакава перайшлі турэцкую мяжу, а 12 жніўня ўжо былі ў Бяндэрах.

Вечарам 2 кастрычніка 1709 г. у Бяндэрах Іван Мазепа памёр. У Бяндэрах і каля іх у той час знаходзілася каля 4-5 тысяч казакоў і 45 чалавек казацкай старшыны. Яны не прызнавалі фактычна прызначанага Пятром I бяспраўнага гетмана Івана Скарападскага. Выбары новага гетмана адбываліся пад Бяндэрамі 16 красавіка 1710 г. (5 красавіка па старому стылю). Гетманам большасцю галасоў быў абраны Піліп Орлік. Меншасць галасавала за пляменніка І. Мазепы Андрэя Вайнароўскага.

Піліп Орлік прыняў ад казацкай рады булаву гетмана Багдана Хмяльніцкага.

Піліп Орлік працягваў справу І. С. Мазепы, дамагаючыся незалежнасці Украіны і прапаганды гэтай незалежнасці пры еўрапейскіх дварах.

У дзень абрання паміж новым гетманам, казацкай старшынай і войскам, а таксама Карлам XII як пратэктарам Украіны, быў заключаны дагавор, паводле якога Украіна павінна была кіравацца сваёй канстытуцыяй. Гэта і была напісаная П.Орлікам "Канстытуцыя Правоў і Вольнасці Войска Запарожскага". Дагавор складаўся з прэамбулы і 16 артыкулаў. У ім абвяшчалася ўтварэнне незалежнай Украінскай дзяржавы, якая аб'ядноўвала Левабярэжную і Правабярэжную Украіну згодна з межамі яе часоў Багдана Хмяльніцкага: на захадзе да ракі Случ (на мяжы з Валынню). На Украіне прызнаваліся толькі адна рэлігія – праваслаўная. Узнаўляліся ранейшыя адносіны паміж кіеўскім мітрапалітам і Канстанцінопальскім патрыярхам, г.зн. Праваслаўная царква на Украіне выходзіла з пад юрысдыкцыі Маскоўскага патрыярхату і вярталася пад юрысдыкцыю Канстанцінопальскага, як было да 1686 г.

У канстытуцыі Піліпа Орліка абвяшчалася, што пасля вызвалення Украіны "ад падданства маскоўскага" павінна быць зроблена рэвізія ўсіх маёнткаў, каб удакладніць, каму паводле права яны належаць і якія павіннасці падданыя мусяць выконваць. Сталічны горад Кіеў і іншыя ўкраінскія гарады са сваімі магістратурамі заставаліся пры ўсіх сваіх правах і прывілеях на самакіраванне. Павіннасці падводныя, харчовыя і іншыя, што "наносяць бедным людзям знішчэнне скасоўваюцца". Ад купцоў і гандлёвых людзей "нічога лішняга вымагаць" не дазвалялася.

Каб забяспечыць Украіну ад нападаў крымскіх татараў, абвяшчалася неабходнасць Саюза Украіны з Крымскім Ханствам Абвяшчалася апекаванне шведскага караля над Украінай. Піліп Орлік адхіліў спробы абвясціць ва Украіне вярхоўную ўладу польскага караля Станіслава Ляшчынскага, саюзніка Швецыі. Такім чынам, Украіна мела быць вольнай дзяржавай у саюзных адносінах з Крымскім ханствам і далёкай Швецыяй.

Канстытуцыя 1710 г., аўтарам якой быў Піліп Орлік, была створана на падставе традыцыйнага казацкага права, але з новымі элементамі парламентарызму. Улада гетмана абмяжоўвалася, каб пазбегнуць яго аўтарытарнага панавання. Вызначалася выбарная аснова казацкай улады.

Побач з гетманам стваралася генеральная рада, якая складалася з палкоўнікаў, прадстаўнікоў казацкай старшыны і абраных дэпутатаў ад казацкіх палкоў – па аднаму казаку ад кожнага палка.

Генеральная рада разам з гетманам вырашала ўсе дзяржаўныя справы. Генеральная рада збіралася на сесіі тры разы ў год. Акрамя таго, штогод гетман павінен быў склікаць сойм, які складаўся з палкоўнікаў і сотнікаў, дэпутатаў ад палкоў, гарадоў і праваслаўнага духавенства Украіны.

Гетман не меў права прызначаць асоб на вайсковыя пасады. Яны выбіраліся шляхам свабодных выбараў, але са згоды гетмана. Гетман не меў права караць каго-небудзь з войска без згоды казацкай старшыны.

У тэксце канстытуцыі 1710 г. гарантаваліся правы і свабоды жыхарам Украіны і іншых саслоўяў.

Гетмана Піліпа Орліка прызналі еўрапейскія дзяржавы Да Піліпа Орліка збіраліся ўкраінскія казакі, незадаволеныя расійскім панаваннем на Украіне. На пачатку 1711 г. гетман-эмігрант сабраў 3-тысячнае войска і разам з 3-тысячным аддзелам польскага войска Юзафа Памоцкага рушыў на Украіну. Да іх далучыліся 20 тысяч нагайцаў. Перад выступам у лютым 1711 г. ён накіраваў на Украіну свае ўніверсалы да ўкраінскага народа, заклікаючы яго падняцца на барацьбу супраць "маскоўскай улады". Напісаў ён ліст і да Івана Скарападскага, прапануючы яму далучыцца да вызвольнага руху.

Спачатку паход П. Орліка быў паспяховым. Казакам удалося заняць цвердзі на поўдзень ад Кіева, казацкія залогі якіх пераходзілі на бок П. Орліка. Пётр I тэрмінова перакінуў расійскія войскі на Правабярэжную Украіну. У гэты час крымскі хан, які ваяваў у Слабадскай Украіне (што непасрэдна ўваходзіла ў склад Расіі), спыніў наступ і вярнуўся ў Крым. Адыйшоў за Паўднёвы Буг і сын крымскага хана, што ішоў спачатку разам з казакамі, бо паспеў узяць у ясыр (палон) шмат украінскіх хлопцаў і дзяўчат. Казакі мясцовыя ўраджэнцы, масава пачалі пакідаць войска П. Орліка. Пад націскам супраціўніка войска П. Орліка ў траўні 1711 г. адступіла ў Бяндэры.

Далейшыя спробы П. Орліка арганізаваць кааліцыю супраць Расіі не ўдаліся. Турэцкі султан, атрымаўшы перамогу над расійскай арміяй падчас яе Пруцкага паходу ў 1711 г., заключыў мір з Пятром I, вярнуўшы Турцыі частку тэрыторыі, занятую раней Расіяй. Султан Ахмед III прызнаў П. Орліка гетманам Украіны, але пад турэцкім пратэктаратам. Гэта перакрэслівала планы Орліка стварыць незалежную ўкраінскую дзяржаву. І там ён зноў зблізіўся з каралём Швецыі.

Палітычная барацьба не замінала П. Орліку займацца грамадска-палітычнымі праектамі. У 1712 г. П. Орлік напісаў свой трактат "Вывад правоў Украіны", у якім выкладаў свае погляды на неабходнасць стварэння незалежнай Украінскай дзяржавы і яе сувязяў з еўрапейскімі краінамі. Ад гэтага часу П. Орлік разам з трактатам пачаў рассылаць свае гетманскія маніфесты і мемарандумы ў сталіцы розных еўрапейскіх краін.

Пераканаўшыся, што турэцкі султан не падтрымлівае яго план утварэння незалежнай Украіны, а Аўгуст II, які вярнуўся на трон у Польшчы, таксама не прымае такога плану, Піліп Орлік з сям'ёй і групай бліжэйшых прыхільнікаў выехаў у верасні 1714 г. у Швецыю і ў канцы 1714 г. пасяліўся спачатку ў Крыстыянстадзе, а потым у Стакгольме, атрымаліваючы ад Шведскага ўраду невялікую грашовую дапамогу на групу ў 25 чалавек. Аднак сродкаў не хапала, і ў Швецыі засталіся П. Орлік, яго сям'я і сваякі. Астатнія вярнуліся на Украіну.

Піліп Орлік і ў Швецыі працягваў сваю палітычную дзейнасць, чакаючы зменаў у міжнароднай сітуацыі. У 1720 г. ён зноў спрабаваў стварыць антырасійскую кааліцыю і выехаў у Германію. Гетманскую булаву Багдана Хмяльніцкага ён пакінуў у Швецыі, бо з-за фінансавых цяжкасцяў не здолеў яе забраць з закладу (адкуль пазычыў грошы). Булава Багдана Хмяльніцкага была вернута Швецыяй на Украіну падчас ўступлення на пасад прэзідэнта Украіны В. Юшчанкі ў 2004 г.

Каб спыніць дзейнасць П. Орліка ў Еўропе Пётр I загадаў расійскаму рэзідэнту пры імператарскім двары ў Вене Паўлу Ягужынскаму арыштаваць Орліка. Аднак папярэджаны аб арышце П. Орлік паспеў выехаць з Брэслаў у Польшчу, дзе ачуваў сябе больш бяспечным. Сям'я Орліка знайшла прытулак у манастырах у Брэслаў. Потым сям'я Орліка пераехала ў Кракаў, дзе ён схаваў яе ў розных манастырах.

Старэйшы сын П. Орліка, як яго называў бацька Грыгорый, які ў Швецыі вучыўся ва універсітэце і служыў афіцэрам у каралеўскай гвардыі, быў прыняты каралём Аўгустам II афіцэрам у яго саксонскую гвардыю.

Заключэнне Ніштацкага міру паміж Расіяй і Швецыяй (10 верасня 1721 г.), якім скончылася Паўночная вайна 1700-1721 гг., узаконіла заваёвы Пятра I у Прыбалтыцы. Украінскія палітычныя эмігранты не знаходзілі падтрымкі пры еўрапейскіх дварах. Піліпу Орліку з невялікай групай прыхільнікаў прыйшлося паехаць на тэрыторыю Асманскай імперыі, хаця для турэцкіх улад ён быў не вельмі пажаданым госцем.

Дочкі П. Орліка засталіся ў Еўропе. Старэйшая, Анастасія, выйшла замуж за шведскага генерала Й. Стэнфлінта, але памерла маладой. Пасля яе смерці генерал ажаніўся з яе сястрой Варварай. Трэцяя дачка, Марфа, выйшла замуж за шляхціца з вядомага роду Андрэя Дзержаноўскага, палітычнага дзеяча, прыхільніка Станіслава Ляшчынскага, прыяцеля сына П. Орліка Грыгорыя.

*(Заканчэнне на ст. 6.)*

# Беларус Піліп Орлік (1672-1742) - аўтар першай украінскай канстытуцыі

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 5.)*

У снежні 1722 г. гетман-эмігрант прыехаў у Грэцыю, якая належала Турэцкай імперыі, і пасяліўся ў Салоніках. Падтрымліваў пастаянную сувязь са сваім сынам Грыгорыем, які ў 1729 г. перайшоў на французскую службу. Французскі каралеўскі двор быў зацікаўлены ў польскаіх і украінскіх справах больш, чым раней, бо малады кароль Людовік ХУ быў жанаты з Марыяй, дачкой былога польскага караля Станіслава Ляшчынскага, якога Францыя рыхтавала да заняцця зноў каралеўскага трона ў Варшаве. А украінскія казакі маглі да гэтага прыдацца.

Ужо ў 1730 г. капітан Грыгорый Орлік быў накіраваны ў Турцыю да французскага амбасадара ў Стамбуле Л. Вільнёва з тайнай місіяй і пад імем шведскага капітана Бартэля. Па дарозе ў Самбул Г. Орлік наведаў бацьку ў Салоніках і добра паінфармаваў яго пра міжнародныя справы і французскія планы.

У Салоніках Піліп Орлік быў прыняты мясцовымі грэкамі вельмі прыхільна як чалавек праваслаўны, вяльможны. Ён валодаў асноўнымі еўрапейскімі мовамі, атрымліваў з-за мяжы французскія, італьянскія і галандскія газеты. П. Орлік працягваў пісаць у гэты час мемарыяльныя запісы пра украінскія і міжнародныя справы.

Пасля смерці Пятра I на расійскім троне часта мяняліся яго наступніцы (і наступнік Пётр II). Гэта давала спадзеў да змянення жорсткай палітыкі Расіі ў дачыненні да Украіны.

Мянялася і агульная сітуацыя ў Еўропе. Склаліся дзве кааліцыі: 1) Расія і Аўстрыя; 2) Францыя, Англія і Галандыя. П. Орлік выкарыстаў гэтую сітуацыю, каб прыцягнуць увагу еўрапейскіх двароў да справы утварэння Украінскай дзяржавы. Ён падтрымліваў добрыя адносіны з аўтрыйскімі і французскімі дыпламатамі ў Стамбуле, з кардыналам А. Альбані ў Рыме, аднак рашуча выступаў супраць уніяцкай царквы. Вёў перапіску са Станіславам Ляшчынскім.

Пасля смерці Аўгуста II у Рэчы Паспалітай разгарнулася барацьба паміж прыхільнікамі двух кандыдатаў у каралі – Станіславам Ляшчынскім (якога падтрымлівала Францыя) і Аўгустам Саксонскім (якога падтрымлівалі Расія і Аўстрыя). Сын П. Орліка ездзіў з даручэннямі Людовіка ХУ у Польшчу і Стамбул. Грыгорыю Орліку ўдалося дамагчыся ад султана, каб той адпусціў Піліпа Орліка з Салонікаў, і стары гетман здолеў у 1734 г. пераехаць бліжэй да Украіны ў Каўшаны, сталіцу Буджака, летнююю рэзідэнцыю крымскага хана (на поўдзень ад Бэндэраў).

Тут Піліп Орлік зноў пачаў збіраць казацкае войска для паходу на Украіну. Аднак запарожцы, што месціліся ў крымскіх валоданнях (у Алешкаўскай Сечы), пасля вусных абяцанняў прадстаўнікоў імператрыцы Ганны Іванаўны не падтрымалі заклік Орліка і вясной 1734 г. вярнуліся ў межы Расійскай імперыі і заснавалі Новую Сеч за пяць кіламетраў ад Старой Сечы.

Гэта перакрэсліла планы П. Орліка, які здолеў сабраць дзве тысячы казакоў. Пазней, у 1735 г. да яго прыйшоў на нейкі час са сваім аддзелам атаман паўстанцаў-гайдамакаў Сава Чалы. Урэшце турэцкі ўрад забараніў П. Орліку наступ на Украіну, і Орліку прыйшлося распусціць войска.

У наступныя гады П. Орлік знаходзіўся ў сталіцы Малдавіі, горадзе Ясы, пасля ў сталіцы Валахіі Бухарэсце, потым зноў у Ясах. Матэрыяльнае становішча яго было дрэннае, а гады бралі сваё. 24 траўня 1742 г. Піліп Орлік памёр у Ясах. Пахаванне гетмана-эмігранта адбылося за кошт малдаўскага гаспадара.

Сын Орліка Грыгорый (1702-1759) у Францыі меў графскі тытул. У 1755 г. Францыя прызначыла яго сваім паслом у Стамбуле, дзе ён падтрымліваў сувязі з казакамі-эмігрантамі, паплечнікамі бацькі. Ён добра валодаў еўрапейскімі мовамі, а таксама турэцкай і татарскай. Ён увайшоў у кола французскай арыстакратыі, меў вайсковае званне брыгадзіра (брыгаднага генерала). У сваім замку ўтрымліваў казацкую світу. Падчас Сямігадовай вайны 1756-1763 гг. даслужыўся да ступені генерал-лейтэнанта. Памёр у вайсковым лагеры ля Міндэка ў Германіі.

У XX ст. па яго былых землях на поўдзень ад Французскай сталіцы ў цяперашнім прыгарадзе быў пабудаваны аэрапорт ***Орлі***. Так што імя беларускага шляхціца ***Орліка*** засталося на карце Францыі.

Дзейнасць Піліпа Орліка ўсё яго жыццё была накіравана на стварэнне незалежнай і аб'яднанай (саборнай) Украіны з канстытуцыйным ладам. Яго імя як барацьбіта за незалежнасць згадвалася ў народных думах. У наш час украінскія гісторыкі пераглядзелі ранейшыя негатыўныя погляды расійскіх гісторыкаў на дзейнасць Піліпа Орліка.

***Анатоль Грыцкевіч – доктар гістарычных навук, прафесар.***

*"...молім Цябе шчыра: даруй нам нашыя правіны."*
*(З малебна за беларускі народ)*

Гісторыя хрысціянскіх святынь Шклова ў пэўнай ступені адлюстроўвае лёс станаўлення веравызнання на Беларусі.

Пранікненне хрысціянства на прыдняпроўскія землі пачалося ў 11 стагоддзі. Пануючай жа рэлігіяй на Беларусі хрысціянства зрабілася толькі ў канцы 13 стагоддзя, бо сутыкнулася з моцнымі паганскімі (язычніцкімі) традыцыямі. Пасля паступовага хрышчэння мясцовага насельніцтва, паганскіх драўляных ідалаў звычайна палілі, а камянёвых скідалі ў рэкі і



*Шклоўскі ідал*

азёры. Нешта падобнае адбывалася і ў наваколлі сучаснага Шклова. У 1963 годзе вучні сярэдняй школы № 1 горада Шклова знайшлі камянёвую скульптуру такога ідала. Гэта нагрудная выява мужчыны, зробленая з пясчаніка, вядомая ў навуковай літаратуры як "шклоўскі ідал" і захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.

Гісторыя горада Шклова, пачынаючы з пачатку 16 стагоддзя, знаходзіць сваё адлюстраванне ў гістарычных дакументах; і з гэтага часу крыніцы паведамляюць нам пра існаванне ў горадзе хрысціянскіх храмаў. У той час Шклоў належаў знакамітаму роду беларускіх магнатаў Хадкевічаў. Першым дакументам, які сведчыць аб існаванні ў Шклове хрысціянскага храма, з'яўляецца фундуш Яна Еранімавіча Хадкевіча на "Шклоўскую каталіцкую плябанію і касцёл", пацверджаны ў 1579 годзе вялікім князем літоўскім Стэфанам Баторыем. Вядома таксама, што ў гэты час сугучна з заходняй Еўропай, дзе хутка пашыраецца рух пратэстанцтва, Хадкевічы (Еранім і Карл) будуюць у Шклове кальвінскі збор – тып пратэстанцкага храма. Аднак сын Яна Хадкевіча Аляксандр, да якога Шклоў перайшоў у спадчыну ў 1592 годзе перадае кальвінскі збор каталіцкаму ордэну Дамініканаў.

Намаганнямі Аляксандра Хадкевіча забяспечваецца будаўніцтва і ўтрыманне кляштара Дамініканаў, ствараецца бібліятэка. Дзякуючы вопісу, які захаваўся ў Дзяржаўным гістарычным архіве Беларусі, можна аднавіць знешні выгляд кляштара. Найгалоўнае становішча займаў мураваны касцёл са званіцай. Побач з імі размяшчаўся драўляны кляштар, які меў шэраг падсобных памяшканняў: клець, ляднік, сянніцу, дзве канюшні, вазоўню, мураваную піваварню, старую драўляную лазню, а таксама калодзеж з драўляным колам і вялізны сад.

Па дадзеных польскай даследчыцы старажытнага Шклова Марыі Тапольскай, верагодней усяго, кляштар у Шклове быў найвялікшы сярод кляштараў Дамініканаў на Беларусі. Тут знаходзіліся вельмі каштоўныя абразы і вялікая бібліятэка. Законнікі (каля 20 чалавек) вывучалі філасофію і тэалогію. Усяго ж на той час у Шклове налічвалася 30 асоб каталіцкага духавенства, вернікаў каталіцкага вызнання было каля 300 чалавек, або ад 3,5 до 5 працэнтаў жыхароў горада.

Безумоўна, дзейнічалі ў старажытны час у Шклове і праваслаўныя цэрквы. У чалабітнай мяшчан Шклова рускаму цару, напісанай у 1654 годзе, гаворыцца: *"... бьют челом города Шклова мещане Пашка Степанов сын Михнев, Федька Ефремов сын Кособуцкий, Гришка Алексеев сын Боблец да Янка Трофимов сын Глумилов о церквей новосозданной Воскресения Христова, что в городе и под городом на посадах церковь пресвятая Троица да Вознесения господа бога и спаса нашего Иисуса Христа и Успения пресвятая богородицы ..."*

Пра існаванне праваслаўных храмаў паведамляе і М. Тапольская. Яна піша, што ў сярэдзіне 17 стагоддзя ў Шклове існавала Уваскрасенская царква, на прадмесці Задняпроўскім – Троіцкая, а на прадмесці Аршанскім – Св. Прачыстай з манастыром.

Які ж лёс нападкаў гэтыя найбольш старажытныя хрысціянскія збудаванні Шклова? У "Магілёўскай хроніцы Трафіма Раманавіча Сурты і Юры Трубніцкага" паведамляецца, што ў 1690 годзе *"Пан Бог адведаў агнём горад Шклоў, амаль увесь замак з вялікай вежай, фарны касцёл і крамы пагарэлі."* Пасля гэтай даты фарны касцёл у Шклове больш не згадваецца ў гістарычнай літаратуры. Верагодней усяго, касцёл кляштара Дамініканаў у далейшым выкарыстоўваўся і як парафіяльны. Сам кляштар Дамініканаў праіснаваў да 1832 (па іншых звестках да 1840) года, калі быў зачынены па загаду імператара Мікалая I у комплексе тых мерапрыемстваў, якія праводзіліся Расійскай імперыяй па русіфікацыі беларускіх зямель пасля далучэння іх да імперыі. Як і большасць іншых зачыненых каталіцкіх кляштараў, шклоўскі быў вызначаны для воінскага пастою, а яго клірыкі адпраўлены ў Пінск. Забальзаміраваныя парэшткі Аляксандра Хадкевіча, якія знаходзіліся ў касцёле кляштара, былі перанесены ў могілкавы касцёл і, як сведчаць гістарычныя крыніцы, яго магіла была некранутай нават у пачатку 20 стагоддзя.

Аб месцы, дзе калісьці знаходзіўся кляштар, нагадваюць курганы. Жыхары вёскі Рыжкавічы, якія жывуць побач "старога месца" і зараз захавалі назву "кляштар", калі размова датычыць тых курганоў.

"Магілёўская хроніка" паведамляе таксама пра Уваскрасенскую царкву, што пасля пажара 1690 года *"... месяца 15ш панамар Данііл запаміатаваў патушыць у царкве свечку, ад якіх згарэла багатая шклоўская царква з усімі скарбамі, кнігамі, начыннем, званамі, нічагусенькі не засталося. І так гэты здраднік ўцёк, бо быў бы сам спалены."* І чытаем далей, што ў 1701 годзе: *"Шклоўская царква змуравана і даконча на панам Базылём Аўсяевічам, шклоўскім купцом, ягоным коштам, толькі падобна, не без дапамогі іншых".* Пра гэтага чалавека крыніцы паведамляюць, што ў 1670-1680 гадах Аўсяевіч займаўся буйнымі гандлёвымі аперацыямі. Скупліваў лес, пяньку, каноплю ў мяшчан Магілёва, Шклова, таксама ў духавенства і шляхты. У яго былі свае стругі, кармчыкі, прыказчыкі, слугі. У той час насельніцтва Шклова далучылася да царкоўнай Уніі, абвешчанай у 1596 годзе ў Бярэсці. Апошніх станавілася ўсё больш, бо ўніяцкае духавенства з увагай адносілася да нацыянальна-культурных традыцый, выкарыстоўваючы ў рэлігійным жыцці беларускую мову. Новая царква ў Шклове паўстала як уніяцкая пад назвай св. Пятра і Паўла. Захаваліся прозвішчы жыхароў Шклова: Прасаловічава, Мазурычава, Касабуцкая, Грасулевіч, якія ў 1726 годзе *"хадзілі да касцёла уніяцкага замест рымакаталіцкага".* У 1739 годзе ў Шклове дзейнічалі дзве уніяцкія царквы.

Расійскае самадзяржаўе ўвесь час мэтанакіравана праводзіць барацьбу з уніяцкай царквой. Крыніцы праз пэўны час зноў паведамляюць пра Шклоўскую праваслаўную Уваскрасенскую царкву і Уваскрасенскі манастыр. Гэты духоўны прыстанак вядомы тым, што настаяцелем Уваскрасенскага манастыра двойчы прызначаўся знакаміты Арэст – Летапісец. Першы раз з ліпеня 1818 года па люты 1820 года і другі раз 7 жніўня 1837 года магілёўскім архіепіскапам Смарагдам Арэст зноў прызначаецца ў гэты манастыр. Ігумен Арэст вядомы тым, што пакінуў унікальны матэрыял па гісторыі, культуры, быту Магілёва і наваколля ад старажытнасці да сярэдзіны 19 стагоддзя. "Запіскі ігумена Арэста" знаходзяцца ў адным шэрагу з такімі вядомымі гістарычнымі крыніцамі Магілёўшчыны як "Хроніка Быхаўца", "Баркалабаўскі летапіс", "Магілёўская хроніка" і іншыя. У 1841 годзе ігуменам уласнаручна быў складзены спіс пад назвай "Формулярная ведомость Шкловского Воскресенского монастыря, с показанием оной числа братии (игум., 2 свящ., 4 посл.), их поведения и принадлежащих оному монастырю угодий." Праіснаваў Шклоўскі Уваскрасенскі манастыр да 1847 года. Праз тры гады ў 1850 годзе ў Аршанскім Богаяўленскім манастыры адышоў у іншы свет у якасці іераманаха і сам Арэст.

Савецкая ўлада з першых дзён свайго існавання вяла барацьбу з рэлігіяй. Пачаліся ганенні на святароў, а з 1930 года "изъятие культовых сооружений у верующих." Мураваны будынак Уваскрасенскай царквы са званіцай заставаўся цэлым яшчэ ў 60-х гадах 20 стагоддзя і па-ранейшаму ўзвышаўся над наваколлем. Аднак, тагачасным кіраўніцтвам, быў аддадзены адпаведны загад і старажытная хрысціянская святыня была ўзарвана.

У 2003 годзе на месцы былога храма (сучасная вёска Рыжкавічы) праводзіліся археалагічныя даследванні навукоўцамі з Акадэміі навук Беларусі пад кіраўніцтвам доктара гістарычных навук Вольгі Ляўко. Быў закладзены шурф на плошчы 8 квадратных метраў з унутранага боку на паўднева-усходнім участку храма. Навукоўцы выявілі манеты першай паловы сярэдзіны 17 стагоддзя, рэшткі пліткавай падлогі, вялікаю колькасць цвікоў і металічных пласцін, якія нагадваюць прыстасаванні да трунаў. Драўляныя вуглі, якія знаходзіліся амаль на ўсёй плошчы распрацоўкі, сведчылі аб адбыўшымся тут пажары. Амаль на ўзроўні мацерыка былі выяўлены тры пахаванні. Як лічаць навукоўцы, верагодней усяго гэтыя пахаванні належаць часу, калі тут знаходзілася яшчэ драўляная царква да пажару 1690 года.

Па-ранейшаму на месцы былого храма ўзвышаюцца курганы. У невялікай адлегласці знаходзяцца такія ж курганы былога кляштара Дамініканаў, а праз штучны роў, бліжэй да ракі Днепр некалі мясціўся старажытны замак. Усе гэтыя мясціны патрабуюць далейшых навуковых даследаванняў.

Далей паспрабуем прасачыць лёс храмаў, якія існавалі "на пасадах". Так на прадмесці Задняпроўскім існавала царква Святой Тройцы. Задняпроўскае прадмесце Шклова (сучасная вёска Вялікае Зарэчча) у сярэдзіне 17 стагоддзя было самае шматлюднае. Тут у 405 дамах жыло 2835 чалавек.





# Хрысціянскія святыні Шклова

## *(гісторыя і сучаснасць)*

Адзін раз на год праводзіўся кірмаш, у дзень Святой Тройцы. Захаваліся звесткі пра знешні выгляд гэтага храма. Драўляныя калоны дарычаскага ордэна, антаблемент, франтон імітавалі камень. Пад камень распісаны і драўляныя сцены царквы. Такія формы культавай архітэктуры назіраліся ў перыяд устанаўлення класіцызму на Беларусі.

Царква перажыла ўсе рэвалюцыйныя і ваенныя ліхалецці, а вось у гады ваяўнічага атэізму знішчана. У 60х гадах 20 стагоддзя будынак царквы Святой Тройцы быў разабраны і перавезены на іншае месца пад гаспадарчыя патрэбы.

Асабліваю адметнасць былому храму надае тое, што ў свой час безумоўна наведваў зарачанскую царкву будучы беларускі пісьменнік Міхась Зарэцкі (Касянкоў). У пачатку 20 стагоддзя яго бацьку перавялі на службу ў царкву Святой Тройцы ў якасці дыякана. Дзіцячыя ўражанні падлетка Міхася паспрыялі ў далейшым абраннем пісьменніцкага псеўданіма "Зарэцкі", сугучнага з назвай вёскі.

Больш сціплыя звесткі захаваліся пра царкву, якая існавала на Аршанскім прадмесці. Паведамляецца пра царкву Успенія прэсвятой Багародзіцы пры якой дзейнічаў жаночы манастыр заснаваны ў 1682 годзе. Польская даследчыца М. Тапольская таксама паведамляе, што на Аршанскім прадмесці існавала царква з манастыром, але называе царкву Св. Прачыстай. Падобна на тое, што размова датычыць адной і той жа святыні, а неадпаведнасць у назвах вынік тэалагічных або філалагічных недакладнасцяў. Магчыма пэўны час царква належыла да уніяцкай плыні, што і не пярэчыць наяўным звесткам пра існаванне ў Шклове двух уніяцкіх храмаў.

У далейшым каб дасканала прасачыць лёс Успенскай царквы і іншых культавых збудаванняў, неабходна аднавіць храналогію будаўніцтва непасрэдна самога горада Шклова.

З 1769 года начынаецца будаўніцтва горада на "Новым месцы" (сучасная тэрыторыя Шклова) пасля таго, калі вялікі пажар знішчыў амаль 300 дамоў "Старога месца". Будаўніцтва пачалося ў адлегласці 2,5 кіламетра на поўнач "За перакопам", дзе ўжо існавала прадмесце. Такім чынам, Аршанскае прадмесце з царквой і манастыром апынулася непасрэдна ў межах "Новага месца". Завяршана будаўніцтва было каля 1778 года. Галоўным збудаваннем быў комплекс гарадской ратушы з гандлёвымі радамі, а таксама вызначаліся будынкі пошты, праваслаўнай царквы, жаночага манастыра, яўрэйскай школы. Новы горад пертатварыўся ў арганізаванае паселішча, разбітае на рэгулярныя кварталы і якія захаваліся да сённяшняга часу.

Дакументы пачатку 19 стагоддзя паведамляюць пра існаванне ў Шклове ўжо двух праваслаўных храмаў: *"из существующих в местечке Шклове двух церквей деревянных, одна приходская во имя Успения Богоматери, а другая приписная во Имя Рождества Богородицы, обе в крайне бедном положении без всякого великолепия, подобающего Храму Господню, и в совершенной ветхости."*

Дакладна сцвярджаць, што Успенская царква на "Новым месцы" і Успенкая царква на Аршанскім прадмесці з'яўляюцца адным і тым жа храмам немагчыма. Аднак, упэўнена можна меркаваць, што калі храм і быў пабудаваны нанава, то безумоўна з'яўляецца нашчадкам старажытнага храма сярэдзіны 17 стагоддзя, існаваўшага на Аршанскім прадмесці.

Драўляны будынак царквы захаваўся амаль да 60х гадоў 20 стагоддзя. Аўтар асабіста памятае, што на той час будынак царквы выкарыстоўваўся як крама. Потым ён быў разабраны, а месца забудована сучасным гандлёвым цэнтрам "Серабранка".

Царква Ражства Багародзіцы існавала на сучаснай вуліцы імя Дзікуна паміж домаўладаннямі № 69 і № 73. Крыніцы паведамляюць, што гэта была дамавая "цёплая" царква тагачаснага ўладара Шклова Семёна Гаўрылавіча Зорыча. У далейшым храм быў прыпісаны да чыноў інтэнданскай службы першай Арміі, якая размяшчалася ў Шклове ў першай палове 19 стагоддзя.

Па ўспамінах жыхара Шклова Уладзіміра Сімашова паўразбураную царкву ў пачатку 30х гадоў 20 стагоддзя пераабсталявалі пад дзіцячую тэхнічную станцыю. У час будаўніцтва цесляры, перасцілаючы падлогу, выявілі ў царкве склеп, дзе знаходзіліся труны. Далей Сімашоў успамінаў: *"У той час мне было 15-16 гадоў. Цесляры папрасілі мяне спусціцца праз малую адтуліну ў склеп. У пацёмках я ўбачыў адчыненую труну. У ей ляжаў шкілет чалавека і рэшткі мундзіра, побач ляжала саржавелая шабля"*. Пры ўваходзе ў царкву на плітах былі высечаны прозвішчы пахаваных людзей Шклова таго часу. На адной з пліт было прозвішча Сямёна Зорыча.

Будынак царквы Ражства Багародзіцы быў знішчаны ў гады апошняй вайны – самай жудаснай з'явы ў гісторыі чалавецтва. А вось кляштар Дамініканаў, Уваскрасенская, Троіцкая і Успенская цэрквы былі мэтанакіравана знішчаны ўладамі, як і вялікая колькасць іншых хрысціянскіх святынь на Беларусі.



*Спаса – Праабражэская царква*

Між тым, вось ужо другое стагоддзе, галоўнай архітэктурнай дамінантай Шклова разам з вежай былой гарадской ратушы з'яўляецца Спаса-Праабражэнская царква. Заснавальніцай гэтай святыні лічыцца багамолка Агаф'я. Да яе, жанчыны добразычлівай і прадбачлівай, прыходзілі людзі маліцца. Звярталіся да багамолкі купецтва і багацеі, бо яна прадказвала ў які бок ісці, каб пашанцавала, дзе мець поспех. Усё спраўджвалася, і людзі ў знак удзячнасці давалі ёй грошы.

Захаваўся гістарычны дакумент: *"Дело канцелярии оберпрокурора святейшего правительственного Синода № 12076" О построении церкви в местечке Шклов из завещаных на сей предмет 20 тыс. руб. Агафии Сидоровой"*. Вось вытрымка з гэтай справы: *"... находившаяся в Могилевской губернии уезда в местечке Шклов Агафия Сидорова по смерти своей завещала на приведение к совершению в том местечке Шклов начатой г. Зоричем Храма банковыми ассигнациями 20 тысяч рублей и кирпича, заготовленного ею, на 1355 руб. По дошедшему о сем предмете Могилевской Консистории сведению 17 августа 1820 года был опрошен шкловский священник Косьма Цалуевский, в приходе коего проживала и скончалась вышеуказаная Агафия, показал, что оная Агафия от стекавшегося к ней из разных мест народа, получая подаяния, имела твёрдое намерение по собрании такового количества значительной суммы, обратить оную на сооружение в местечке Шклов каменной церкви. По смерти оные Агафии Сидоровой в 1811 году последовавшей, осталось собраной ею суммы 20 тысяч рублей ассигнациями, разного в посуде состояшего серебра три фунта с половиною и кирпича купленого на сей предмет на 1.355 руб."*

Пра багамолку Агаф'ю Сідараву паведамляюць і іншыя архіўныя крыніцы. Безумоўна, цяпер цяжка поўнасцю высветліць усе перапетыі з ходам будаўніцтва царквы.

Вядома, што на будаўніцтва храма пайшла цэгла з былога будынка Шклоўскага шляхетнага вучылішча. У гэтай навучальнай установе, адчыненай намаганнямі ўжо згаданага Зорыча, 22 траўня 1799 года адбыўся пажар і рэшткі будынка былі разабраны на цэглу.

Між тым відавочна, што мара ўсяго жыцця Агаф'і здзейснілася – у Шклове ўзнёсся прыгожы мураваны храм. Сама Агаф'я Сідарава была пахавана каля існай на той час царквы Ражства Багародзіцы. На месцы пахавання амаль да пачатку 60х гадоў 20 стагоддзя знаходзіўся крыж. Потым рэшткі набожчыцы былі перанесяны на гарадскія могілкі дзе знаходзяцца і зараз. Кожны год 14 чэрвеня багамолку Агаф'ю ўспамінаюць на спецыяльнай літургіі ў храме, а потым адбываецца памінальная паніхіда каля яе магілы. Агаф'я Сідарава застаецца ў памяці сваіх землякоў і не толькі вернікаў.

Будынак Спаса – Праабражэскай царквы крыжападобны ў плане, цэнтральнай кампазіцыі. Над сяродкрыжжам узвышаецца вялікі васьміграны светлавы барабан. Паміж крыламі крыжа ўбудаваны 4 квадратныя ў плане трох'ярусныя вежападобныя аб'ёмы. Верхнія васьміграння ярусы са скразнымі праёмамі завершаны гранёнымі купаламі. Інтэр'ер двухсветлавы, сяродкрыжжа перакрыта злучаным скляпеннем, астатнія часткі залы – цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкам. Дэкаратыўны акцэнт у інтэр'еры зроблены на групах тонкіх калонак, якія падтрымліваюць светлавы барабан. Будынак з'яўляецца цікавым помнікам эклектычнай архітэктуры, у якім спалучаны рысы стылю псеўдавізантыйскага і "мадэрн".

З Божай Ласкі захавалася ў Шклове і яшчэ адна хрысціянская святыня – касцёл святых Пятра і Паўла. Геаграфічны слоўнік Каралеўства польскага паведамляе, што мураваны храм "wzniesiony" ў 1849 годзе. Да гэтага часу крыніцы паведамляюць толькі пра драўляны касцёл. Даследчык гісторыі Шклова А.Лукашэвіч сцвярджае, што на будаўніцтва муравана касцёла былі скарыстаны рэшткі будынка тэатра, які быў пабудаваны ў Шклове ў 1780 годзе.

Найбольш старадаўняе прозвішча шклоўскага ксяндза вядома з 1863 года, гэта ксёндз Пржыалкоўскі. Прозвішча згадваецца ў документах нацыянальна – вызвольнага паўстання 1863 года. Разам з палкоўнікам Антоніем Аленскім, Пржыалкоўскі быў адным з кіраўнікоў аддзела паўстанцаў, які быў створаны ў фальварку Чарнаручча непадалёк ад Шклова. Аддзел быў разгромлены, а Аленскі і Пржыалкоўскі расстраляны царскімі карнікамі.

У гады ваяўнічага атэізму, храм быў пераабсталяваны пад кінатэатр, потым выкарыстоўваўся як складское памяшканне.

Але жыццё няспынна ідзе наперад і надышоў час свята і для гэтай святыні. 20 верасня 1999 года адбылося ўрачыстае асвячэнне Шклоўскага касцела Св. Пятра і Паўла. Асвячэнне аднаўленага храма праводзіў кардзінал Казімір Свёнтак, арцыбіскуп, мітрапаліт Менска-Магілеўскі. З гэтага часу ў касцёле пачаліся рэгулярныя набажэнствы. Дзень Святых Апосталаў Пятра і Паўла лічыцца парафіяльным святам і ў гэты дзень тут праводзяцца святочныя фэсты.

У аснове кампазіцыі храма – прамавугольны ў плане аб'ем з закругленай алтарнай часткай, пакрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад (перабудаваны) мае плоскаснае вырашэнне, завершаны двухгранным шчытом і фланкіраваны здвоенымі гранёнымі пілонамі. Над уваходным прамавугольным праёмам – акно стральчатай формы. Бакавыя фасады дэкарыраваны пілястрамі, тонкапрафіляваным карнізам, прамавугольныя аконныя праёмы без ліштваў. Унутраная прастора будынка падзелена чатырма слупамі на тры нафы. У бакавых нафах вылучаны сакрысціі, над уваходам хоры. Шклоўскі касцёл Св. Пятра і Паўла – помнік эклектычнай архітэктуры.

Са старажытнага часу ў кожным мястэчку на Беларусі ўзвышаліся царква і касцёл і глядзелі адна на адну як родныя сёстры. Вось зараз і ў Шклове, нескарыўшыся, перажыўшы ўсе выпрабаванні, дзве старажытныя хрысціянскія святыні па-ранейшаму асвятляюць людзям шлях да Хрыстовай навукі. З'явіліся ў Шклове і новыя хрысціянскія асяродкі – малітоўныя дамы вернікаў пратэстанцкіх плыняў, якія таксама на Беларусі маюць старадаўнія традыцыі. Па-ранейшаму, не зарастаюць да хрысціянскіх святынь людскія сцежкі, бо чалавеку патрэбна не толькі матэрыяльнае, яго сэрца і душа заўсёды прагне веры, надзеі і любві.

Усемагутны Божа не пакінуў вернікаў Шклова сіротамі.

*А. Грудзіна.*

# Адкуль тваё імя?

## (аб паходжанні назвы Асвея )

Дасюль не спыняюцца спробы навукоўцаў растлумачыць паходжанне назвы *Асвея*. Пры гэтым некаторыя з іх "вядуць раскопкі" відавочна ў фальшывым кірунку. Гэта датычыць тых гіпотэз, якія распрацоўваюць свае версіі, базуючыся на сённяшняй назве мястэчка. Так, шмат хто з тапаністаў пачынаюць шукаць адгадкі, грунтуючыся на корані ***"свей"***. Адсюль узнікаюць варыянты накшталт "свеяных" - звеяных пяскоў, "свенаў"— шведаў і да т.п. Нават наш слынны зямляк, асвяяк Міхал Савіцкі разглядаў як адну з магчымых крыніцаў назвы Асвеі словы тыпу ***Aisvipt, Asaveli, Aseista*** (з фінскай). Аднак менавіта ён выставіў і найболып абгрунтаваную гіпотэзу іншага кшталту (пра гэта ніжэй).

Усе ж без выключэння варыянты з ***"све"*** варта аднесці да далёкіх ад ісціны, і вось чаму.

У назве Асвеі да сярэдзіны XX стагоддзя, г.зн, да часу савецкага "роскві-ту", у вымаўленні ніколі не меў месца націск на галосным ***"е"***. Старажылы Асвейшчыны і самі асвеякі дасюль клічуць мястэчка як ***Восьвія***, прычым, ніякага роду: *у нашым Восьвіі, за нашым Восьвіем, пра наша Восьвія* і г. д. У дакументах Расейскай дзяржавы мінулых стагоддзяў назву паселішча пісалі як ***"Освий"***, ***"Освие"***, пазней - ***"Освея"*** (варта ўлічыць, з націскам на ***"о"***). У "Slowniku geograficznym Krolewstwa Polskiego", 1881, гэтая назва пазначана як ***Oswiej***. Такім чынам, цалкам разумна шукаць разгадку тапанімікі менавіта пачынаючы з расшыфроўкі гэтых ***"ос"*** і ***"ві"***, ***"вій"***, ***"віе"*** і дат.п.

Заўважым яшчэ, што ў рэгіёне беларуска-латвійска-расейскага памежжа, нават у блізкім радыюсе на нейкіх два дзесяткі кіламетраў, знойдзецца некалькі падобных назваў, напрыклад: ***Освас, Осунь (Асуна)*** у Латвіі, ***Осына, Осуга*** ў Себежскім раёне Расіі і інш. Звернем увагу, што і ў назве заазернай вёсачкі ***Асвеіца*** націск не ставіцца на другім складзе, г. зн. ***"а"*** не з'яўляецца чыстым гукам, што было б абавязковым, калі б гэты тапонім пайшоў як памяшнальнае ад ***Асвеі***. На самай справе назва вёскі гучыць як ***Асьвіца***, радзей ***Асьвяіца*** з націскам на ***"і"*** (на другім ***"і"***).

Засталося выявіць, якія плямёны маглі даць назвы з коранем ***"ос"*** у тутэйшым кутку. М.Савіцкі, добры знаўца вугра-фінскіх моў (і, дарэчы, расшыфроўшчык імені "Масква"), знайшоў адказ на гэтае пытанне. Ён выводзіць назву роднага паселішча ад слоў ***"ві"*** *- храм, святое месца*, і ***"ос"*** *- вусце, бераг, мыс*. Такім чынам, ***"Освi"*** - гэта ***святы мыс*** або ***бераг*** ці ***святое вусце***. Тапаграфія асвейскага берага і археалагічныя знаходкі пацвярджаюць справядлівасць гэтай версіі.

Выявіць жа, як узніклі варыянты назвы мястэчка аж да сучаснай зусім нескладана. Беларускае ***"в"*** на пачатку назвы, думаецца, зразумела кожнаму, хто ведае беларускую мову, бо беларусы кажучь: *асіны, аса (асва) - восы, асяніна, асенні - восень, асець - восець, асвяяк, асвейскі - Восьвія*. Калі Асвейшчына трапіла ў склад Расейскай імперыі (1772), у афіцыйных дакументах узніклі варыянты напісання ***"Освий"***, ***"Освие"***, ***"Освей"***, ***"Освея"***, аднак пры нязменным ***"о"*** і націску на першым складзе. Зрух у вымаўленні ўзнік, відаць, з апошняга варыянту напісання, які, мусіць, палічылі больш адпаведным рускаму. А далей яшчэ працей. Расейскае і, пазней, савецкае чынавенства, прысланае з чужых краёў, паступова перанесла націск на ***"е"***, замяніўшы адначасова род слова, бо з націскам на першым складзе не дапасуецца канчатак "я ", а з гэткім канчаткам і тым жа націскам па-руску "не зусім гучыць" слова ніякага роду. Засталося нашым тутэйшым пісакам (у першую чаргу гэта, напэўна, зрабілі менскія бюракраты), "як належыць", замяніць "рускае ***о***" на "беларускае ***а***". Так з "Освея " атрымалася "Асвея".

Пасляваенныя, пісьменныя, пакаленні, даволі хутка адвыклі ад "тутэйшага", спрадвечнага ***"Восьвія"***, свядома перайшоўшы да больш "граматнага" ***"Асвея"***. А найбольш правільна было б па-руску пісаць усё ж ***"Освие"***. Як правільна было б па-беларуску, хай вырашаюць моваведы. Толькі б лагоднае гэта імя гучала так, як вымаўлялі нашыя далёкія і блізкія продкі, як вымаўляюць дасюль тыя, хто вырас на асвейскіх берагах.

*А. Бубала.*

## КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ НА ФАТАГРАФІЯХ XIX СТАГОДДЗЯ

У межах штогадовай акцыі Інстытута Польскага "Восень з польскай культурай" 10 лістапада ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі ў Менску адкрылася выстава "Культура беларускіх зямель на фатаграфіях XIX стагоддзя".

У экспазіцыі прадстаўлены фатаграфіі з Нацыянальнага музея ў Варшаве. Гэта ўжо чацвёртая выстава ў межах праекта "Восень з польскай культурай".

Дэманструюцца фатаграфіі Юзафа Барэцi з яго фотападарожжа ў 1894 годзе па слядах Адама Міцкевіча. На здымках адлюстраваныя месцы, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта.

Экспануюцца таксама фатаграфіі Яна Садоўскага, уладальніка атэлье ў Гародні, які ў 80-я гады XIX стагоддзя здымаў жыхароў прынёманскіх вёсак — герояў рамана Элаізы Ажэшкі "Над Нёманам". Завяршае гэтую частку выставы фатаграфія адной са старонак гербарыя, сабранага Э. Ажэшкай.

*Сяргей ПУЛЬША, БелаПАН.*

# Крыжаванка "Адновім мову"

*Склаў Лявонці Целеш, г. Дзяржынск*



**Па гарызанталі.**

5. Украінскі народны струнны муз. інструмент.
6. Беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, грамадска-культурны дзеяч. Адзін з заснавальнікаў і класікаў беларускай нацыянальнай літаратуры. Рэпрэсаваны ў 30-х гадах.
9. Крытыя звеху вароты.
10. Адзін з найбольш старажытных жанраў вуснай народнай творчасці. Асноўнай мэтай гэтага жанру з'яўлялася ператварэнне жаданага ў рэальнасці з дапамогай магічных слоў і выразаў.
11. Гісторык. Акадэмік АН БССР, адзін з арганізатараў і першы рэктар Белдзяржуніверсітэта.
14. Калі ўлез у ..., не кажы: "Не магу" . (Прык.)
16. Рэшта пасля спальвання ў гарэльні цвёрдага паліва.
17. Хто ... і веру мяняў, той не толькі сябе, а і маці прадаў. (Прык).
18. Старажытнарымскі богуладар часу, заступнік пасеваў.
19. Кожная з чатырох змен (фаз) месяца.
23. Мастак і кампазітар 19 стаг., сябраваў з Ф. Шапэнам і А. Міцкевічам. Рабіў замалёўкі архітэктурных помнікаў Беларусі, віды гарадоў Гародні, Магілёва, Полацка, Менска і інш. пісаў паланэзы, вальсы, мазуркі.
24. Агульны знешні выгляд краіны, мясцовасці.
25. Горад у крымскай вобласці, дзе пахаваны славуты сын беларускага народа – паэт М. Багдановіч.
28. Адмоўны персанаж п'есы Я. Купалы "Тутэйшыя" на жаль, людзі тыпу гэтага персанажа яшчэ сустракаюцца сярод беларусаў.
29. Гарадскі пасёлак у Берасцейскай вобласці, бліз якога нарадзіўся наш славуты зямляк Т. Касцюшка.
30. Беларуская пісьменніца і грамадска-культурная дзяячка. Аўтар успамінаў пра М. Багдановіча. У. Галубка. Друкавалася ў "Нашай Ніве" пад псеўданімам Мірка.
32. *"Выйдзем разам да работы, Дружна станем, як сцяна, I прачнецца ад дрымоты З намі наша ....!"* (З верша Я. Коласа "Беларусам", напісаннага ім у 1906 годзе.)
33. Даўні галоўны ўбор замужніх жанчын на Беларусі.

**Па вертыкалі:**

1. Вусны або пісьмовы зварот да масаў.
2. Выстаўлены шляхтай пешы вой у ВКЛ.
3. Вялікі князь Вял. Княства Літоўскага
4. Даўні від народнай мэблі.
5. *"Напасцю, ляянкай напраснай, Грудзей не варта мазаліць! Не пагасіць вам праўды яснай: Жыў... і будзе жыць!"* (З верша Я. Купалы "Ворагам Беларушчыны" напісанага ім у 1907 г.)
7. Вядомая беларуская пісьменніца, грамадска-культурная дзяячка. Аўтарка гістарычных аповесцяў "Прадыслава", "За морам Хвалынскім" асобныя вершы яе пакладзены на музыку.
8. Беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Даследваў творчасць Я. Купалы. Я. Коласа, М. Чарота. А. Гурло. Аўтар раманаў "Перагуды", "Сокі цаліны". Рэпрэсаваны ў 30-х гадах.
12. Птушка атрада вераб'інападобных. На Беларусі звычайна пералётны від. Насяляе хвойныя і змешаныя лясы.
13. Вёска ў Гомельскай вобласці, дзе былі знойдзены паселішчы каменнага веку, курганны магільнік 12-13 стаг. дрыгавічаў, гарадзішча эпохі кіеўскай Русі.
15. Дзяржанне ў прыладах працы (малатку, долаце. гэблі і інш.)
17. "Аво..." Песня кампазітара I. Лучанка на словы З. Пазьняка.
20. Міжнародная экалагічная арганізацыя.
21. Парывісты кругавы рух ветру.
22. Жанчына – лягенда, актрыса Беларускага тэатра імя Я. Купалы, стваральніца яркіх народных характараў у беларускім нацыянальным рэпертуары.
26. Даўней: кантора пры лясніцтве
27. Тэатральны дзеяч, удзельнік беларускага нацыянальнага вызвольнага руху. Адзін з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады.
30. *"Пасееш буйным зярном. Будзеш з хлебам і ..."* (Прык.)
31. *"Прыйшоў трэцці ... – бяры рукавіцы ў запас."* (Прык.).

*(Адказы на ст. 7.)*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 14. 11. 2005 г. у 11.30. Замова № 1962
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.